З любоўю да улоння

1998 №1 (10)

# Белавежская пушча

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік

Фота: Аляксандр Казулін

**Экафундацыя-98:**





## Леташні снег

Слова рэдактара

## Тэмы нумара



*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс", падпісны індэкс 63267*

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

*Для кантактаў: 220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38, 16*
*Тэл. (0172) 36-50-76*

*The founder and Editor-in-chief Valery Dranchuk*
*Contact: Ivanauskaya St. 38-16 220088 Minsk Belarus*
*fax (375 172) 20-50-53*

Калі я пішу гэтыя радкі, зімы ўжо амаль няма. Прыгожым быў яе пачатак – бела-пушыстым, снежным, злёгку марозным. Пасля былі адны слёзы. Неяк больш помніцца леташні снег, пазалеташні, калі хоць збольшага ставала снегу, каб пракладваць лыжны след ды ездзіць на санях. І ўсё ж... "няма таго, што раньш было". Тое, мінулае, застаецца недасягальнай экзотыкай зімовае Беларушчыны. Напрыклад, мая мама, распавядаючы пра гады свайго далёкага вясковага настаўніцтва, нядаўна ўразіла мяне свядоцтвам, якое, мусіць, я не прысніў бы і ў самым чароўным сне. А тут — усё праўда! "Ішла я, — казала мне мама, — па снежных гурбах і час ад часу трымалася за каміны вясковых хат. Такія высокія ды глыбокія былі тыя гурбы..."

Я добра ведаю мясціны, дзе мама настаўнічала, таму як бачу гэты малюнак – за які ды чый комін мама трымалася праз кожныя адмераныя ёю дваццаць крокаў, каля якога – адпачывала... Гэта Нясвіжчына, там, дзе Кучынаўшчына, Амлынцы, Старыя і Новыя Навасёлкі.

Тым часам велічную браму Беларусі, пра якую я згадваў мінулы раз, пара адчыняць у вясну — адну з апошніх у гэтым стагоддзі. Пакуль што ніякай надзеі, што брама Айчыны агорнецца-ўквеціцца ружамі, паўстане годнаю на ўвесь свет. Сёння яе, ці не зрынутую на дол, топчуць нягоднікі і зладзеі, здрайцы і прахвосты, а мы, хто не выракся роду свайго, хто шануе святыні, — стаім і маўчым. І я недарэмна ўспомніў "леташні" снег. Быў ён не толькі белы і чысты, але акроплены за стагоддзі крывёю соцень тысяч беларускіх патрыётаў — снег выяўлення годнасці нашых далёкіх і бліжэйшых папярэднікаў...

Вясна нам вяртае надзею. Хутка жаўранак стромка ўзляціць і абвесціць нашу любоў да Радзімы. Прыляцяць аблюбёныя-буслы і пачнуць ладкаваць незабытыя гнёзды. Праклюнецца трава канца XX стагоддзя.

Рух прыроды не церпіць застою. Карані пускаюцца ўглыб, кроны разгаліноўваюцца, сягаючы нябёсаў. Здаецца, нішто так не спраўджвае Беларусь як наша ацалелая, не выбітая дашчэнту прырода. Няхай жа пацвердзіць гэта і сёлетняя вясна!



*Валерый Дранчук*

## Увагі рэдакцыі

## Пакуль ёсць такія чытачы, як Іван Панасюк, газета "Белавежская пушча" будзе і павінна жыць!

Падпіска на новы 1998 год парадавала рэдакцыю значным ростам прыхільнікаў і сяброў. А калі сказаць больш дакладна — колькасць нашых падпісчыкаў павялічылася ўтрая.

Час ад часу раздаюцца званкі, якія сведчаць пра жыццядзейны тонус зваротнай сувязі. Вось, напрыклад, адно з такіх тэлефанаванняў. Гэты раз з Лунінца, ад настаўніка Івана Аляксеевіча Панасюка.

Цяжка ўтаіць наша здзіўленне, бо так супала, што мы самі "сядзелі на чамаданах" — выбіраліся ў Лунінец да... Івана Аляксеевіча. У Брэсце ад ягонага былога аднакласніка, чалавека з надзвычайнай цікавасцю да жыцця і людзей, мы пачулі літаральна наступнае: "О-о, вы яшчэ незнаёмыя?.. Трэба неадкладна выпраўляць недарэчнасць — ехаць да Івана Аляксеевіча і грунтоўна знаёміцца. Пра ўсё ў двух словах не раскажаш, пра ўсё не даведаешся — толькі на месцы, з ім і ягонымі выхаванцамі".

І ўсё ж "два словы" мы пачулі. Пра тое, што Іван Панасюк сапраўдны заўзятар прырода-ахоўнай справы, аддана нясе ў школьнае асветніцтва прыродалюбны дух, кладзе на гэта сілы і час, прыахвочвае іншых. Гэта і падарожжы, і даследванні, і фотапленэры, і вернісажы, — і ўсё з адным памкненнем: каб дзеці вучыліся любіць і шанаваць навакольную прыроду, даражылі кожным дрэвам, краскай, зрухам жыцця.

Словам, трэба ехаць. Аднак Іван Аляксеевіч апярэдзіў нашы намеры. Мэта яго была вельмі радаснаю для нас: ці магчыма займець для школы падшыўку "Белавежскай пушчы", пачынаючы з першага нумару? Бо пра газету да апошняга часу не ведалі, а разгарнулі апошні нумар (№5-6, 1997 — рэд.), прачыталі і вырашылі абавязкова дабраць упушчанае...

Просьбу настаўніка Івана Панасюка рэдакцыя прымае не толькі з гатоўнасцю дапамагчы агульнай справе, але з удзячнасцю за ўвагу да нашага выдання, за пачатак партнёрства, за добры знак і перспектыву.

Хочацца спадзявацца, наперадзе нас чакае нямала прыемных знаёмстваў. Мы будзем на-магацца ўсё рабіць так, каб гэта было ўзаемна. Зычым сябрам газеты ахвоты й запалу ў прапагандзе нашага выдання, таму, як заўсёды, зважаем: прачытаў — перадай другому, падпісаўся — перакажай іншага. Да сустрэчы ў красавіку!



# Альберт Швейцар у Белавежскай пушчы

*Будзем думаць, што лёс вялікага гуманіста ніколі не перасякаўся з вялікім лесам. Прынамсі, пра гэта нам невядома. І ўсё ж мы зрабілі спробу зазначыць такую повязь, бо праца А.Швейцара надзвычай надзённа пераклікаецца з сучаснай практыкай прыродаахоўнасці, перш-наперш на прыкладзе запаведнікаў – асаблівых “багавейлівых” тэрыторыяў.*

*З **Аляксандрам Нікольскім**, маім субяседнікам і даўнім знаёмым, прафесарам кафедры сістэмнай экалогіі Расійскага універсітэта Дружбы Народаў, я нядаўна сустрэўся ў Кіеве падчас міжнароднай школы-семінара “Любоў да прыроды”, якую ладзіў мясцовы культурна-экалагічны цэнтр. Аляксандр Аляксандравіч гэты раз аказаўся не толькі носьбітам “багавейлівай канцэпцыі”, але паспеў патрапіць у цэнтр дыскусіі вакол гэтай самай канцэпцыі, якая пачалася з публікацыі вучонага ў часопісе **“Пра эка”** (“Ахова дзікай прыроды”).*

*Вось некалькі цытаванняў публікацыі пад назвай “Этыка багавейлівасці перад жыццём як канцэпцыя запаведнай справы”. **Спадар Нікольскі піша**:*

“**З**апаведнікі і нацыянальныя паркі ёсць тым месцам, дзе **любое** жыццё мае асаблівы статус і пануе дух багавейлівасці перад жыццём...”

“**А**наліз дзейнасці запаведнікаў і нацыянальных паркаў паказвае, што існуюць тры напрамкі, калі дапускаецца знішчэнне жывёл або раслін на іх тэрыторыі: і) дзеля навуковых мэтаў; 2) дзеля мэтаў рэгулявання колькасці асобных відаў і 3) дзеля рэкрэацыйных мэтаў, звычайна ў форме арганізацыі платнага палявання. ...У большасці выпадкаў такая аргументацыя не вытрымлівае крытыкі: 1) збор навуковага матэрыяла ў запаведніках зазвычай не больш апраўданы, чым на суседніх, неахоўных тэрыторыях...; 2) іерархія відаў паводле іхняй “карыснасці” прынцыпова супярэчыць задачам запаведнікаў і нацыянальных паркаў, бо іхняя рэпрэзентатыўнасць вызначаецца найперш не тым, колькі ў іх “карысных” відаў, а тым, наколькі поўна захаваная **прыродная** экасістэма; 3) арганізацыя паляванняў, якая заахвочвае насалоду забойствам, справа не больш прыбытковая, чым шматлікія іншыя формы баўлення часу наведнікаў, хоць нярэдка і менш турботная”.

“**Х**очацца напомніць некаторым ініцыятыўным дырэктарам, што запаведнікі гэта не акцыянерныя таварыствы. Не віна шараговых падаткаплацельшчыкаў, што вам мала плацяць. Але мы плацім падаткі не для таго, каб вы эксплуатавалі прыродныя рэсурсы, якія мусіце самі ж ахоўваць”.

“**П**рынцыпова і важна, каб мясцовае насельніцтва ведала, што на ахоўнай прыроднай тэрыторыі пануе дух багавейлівасці перад жыццём, каб... ставілася да запаведніка так, як у традыцыйна рэлігійных краінах ставяцца да храма”.

“**А**сновай канцэпцыі арганізацыі запаведнікаў і нацыянальных паркаў павінна стаць **этыка багавейлівасці перад жыццём**, найбольш глыбока развітая ў працах Альберта Швейцара”.

# Багавейлівасць перад жыццём

Што нясе ў сабе этыка пашанотнасці перад жыццём, калі мець на ўвазе дачыненні паміж чалавекам і тварэннем прыроды?

Там, дзе я чыню крыўду якому-кольвек жыццю, я мушу вельмі добра ўсведамляць, наколькі гэта мне трэба. Я не павінен рабіць нічога, апроч неабходнага, — нават самага малога і неістотнага.

Селянін, што скасіў на лузе тысячу красак на корм карове, не павінен дзеля забавы зрываць і камечыць хоць бы адну кветку, што расце пры дарозе. Бо гэты раз ён дазволіць сабе тую зламыснасць супраць жыцця, якую нельга апраўдаць якой-небудзь няўхільнасцю.

Тыя людзі, якія чыняць эксперыменты з жывёламі, звязваючы гэты занятак з распрацоўкай новых аперацый ці апрабаваннем новых лекавых сродкаў, тыя, хто прышчэплівае жывёлам хваробы, каб затым скарыстацца высновамі дзеля здароўя людзей, ніколі не павінны зусім супакойвацца тым, што іхнія жорсткія дзеянні спрыяюць высакароднай ідэі ці маюць яе за мэту. У кожным асобным выпадку яны павінны ўзважыць, ці ёсць насамрэч неабходнасць прыносіць гэтую жывёліну ў ахвяру чалавецтву. Яны павінны быць заўсёды заклапочаныя тым, каб паслабіць боль колькі гэта магчыма. Як часта яшчэ блюзнераць у навукова-даследчых інстытутах, калі абыходзяцца без наркоза, выбаўляючы сябе ад лішніх клопатаў ды маруды! Як многа яшчэ мы робім зла, калі на жывёліне, нічым не збаўляючы яе жахлівых мучэнняў, хочам прадэманстраваць студэнтам і так добра вядомыя з'явы!

Менавіта дзякуючы таму, што жывёліна, якая скарыстоўваецца ў якасці паддоследнай, у сваёй пакуце стала каштоўнай для пакутніка-чалавека, паміж ёю і чалавекам паўстае новае, адзінае ў сваім кшталце дачыненне салідарнасці. Адсюль вынікае для кожнага з нас неабходнасць рабіць у адносінах да любой істоты любое магчымае дабро. Калі я дапамагаю мошцы выкараскацца з бяды, дык гэтым я толькі спрабую паменшыць віну чалавека, якая ляжыць на ім з дачыненняў да іншай жывой істоты. Там, дзе жывёліна змушана слугаваць чалавеку, кожны з нас мусіць не забывацца на клопат, як зменшыць пакуты, якія яна зазнае дзеля яго, чалавека. Ніхто з нас не мае права прайсці бокам і не заўважыць пакутаў, за якія мы, уласна, не нясём адказнасці, і не папярэдзіць іх. Ніхто не павінен пры гэтым сябе супакойваць тым, што ён нібыта вымушаны будзе ўмяшацца ў справу, якая яго не датычыць. Ніхто не павінен хаваць свае вочы і не ўважаць на пакуты, якіх ён не бачыў. Ніхто не павінен сам сабе палягчаць ношу адказнасці. Калі дзе яшчэ сустракаецца нядобрае абыходжанне з жывёламі, калі застаецца няўважаным енк скаціны, не напоенай падчас перавозу чыгункай, калі на нашых бойнях замнога жорсткасці, калі на нашых кухнях няўмелыя рукі робяць пакутлівай смерць жывёлін, калі жывёлы мардуюцца нялітасцівымі людзьмі альбо дзецьмі ў часе іх жорсткіх гульняў, дык у гэтым і наша правіна, у гэтым і мы вінаватыя.

Мы часам баімся, што іншыя звернуць увагу на нас, калі мы выкажам сваё хваляванне перад пакутлівым станам жывёлы, у які яна трапіла воляю чалавека. Чамусьці мы думаем, што іншыя былі б “разумнейшыя” ў гэтым выпадку, і стараемся паказаць, што тое, што прычыняла мучэнні, ёсць самай звычайнай з'явай. Але неўзабаве з вуснаў тых іншых вырываецца слова, якое паказвае, што і яны з хваляваннем бачаць і пераносяць гэтыя пакуты. Раней чужыя, яны становяцца нам блізкія. Маска спадае, і мы разумеем сваю памылку. Мы цяпер ведаем, што не можам размінуцца з той жорсткасцю, якая безупынна чыніцца вакол нас.
О, гэтае цяжкае пазнанне!

Этыка багавейлівасці перад жыццём не дае нам маўкліва залагоджвацца тым, што мы ўжо нібыта не перажываем пачуццяў, якія павінны перажываць думаючыя людзі. Яна надае нам сілы на ўзаемную падтрымку ў атачэнні гэтых пакутаў, надае мужнасці гаварыць і дзейнічаць згодна з той адказнасцю, якую мы адчуваем. Гэтая этыка вымагае ад нас разам сачыць за тым, каб адплаціць жывёлам за ўсе прычыненыя ім пакуты зычліваю дапамогай, і такім чынам пазбавіць іх хоць на імгненне ад непажадана жорсткіх стасункаў, у якія іх ставіць жыццё.

**Валерый Дранчук:** *Чую знаёмае, Аляксандр Аляксандравіч, не знаходзім прарока ў сваёй Айчыне...У вашай душы – вучонага, грамадзяніна – гэта прысутнічала, жыло, але Вы шукалі яшчэ нейкае дадатковае плячо?*

**Аляксандр Нікольскі:** Швейцар выказаў тыя словы, якія я шукаў. Мая пазіцыя была дзесьці блізкая. Магчыма, не хапала поўнай акрэсленасці. Што надзвычай важна, тут не проста багавейлівасць перад жыццём, а менавіта – *этыка багавейлівасці.*

І другое: патрэбен быў аўтарытэт. Швейцар без усякага сумнення ёсць такім аўтарытэтам. Не толькі таму, што гэта выбітная асоба, а таму што ён подзвігам свайго жыцця даводзіў тое, аб чым пісаў. Як ведаеце, ён паехаў у Афрыку і там арганізаваў дзіцячы шпіталь. З пункту гледжання “нармальных” жаданняў, гэтая акцыя была нібыта й за-

лішняй. Здавалася б, чаго не ставала чалавеку. Ягоных талентаў хапала на некалькіх. Ён быў выдатны багаслоў, бліскучы музыкант, філёзаф. Нарэшце, цудоўны доктар, які закончыў медычную ўстанову і меў шмат лекарскіх практык. Але, як бачым, гэтага яму было мала. Яго займала штосьці большае, абагульненае пасля ў *этыку пашанотнасці перад жыццём*. Вялікі прынцып ён мусіў рэалізаваць на прыкладзе свайго лёсу: паказаць, што гэта не які-небудзь філязофскі пастулат, а лад жыцця.

*— Тым самым Швейцар займеў для сябе поўнае маральнае права пра гэта гаварыць.*

— Так, менавіта. На ўсякае слова трэба мець маральнае права. Мала яго сказаць, трэба падмацаваць дзеяннем. Тут мы маем і прыклад Ісуса Хрыста, які свядома пайшоў на крыж. Стварэнне дзіцячай клінікі ў афрыканскай краіне – таксама свядомы акт. Швейцар мала было прамаўляць, ён пайшоў на канкрэтны прыклад.

*— І гэты прыклад Вы спрабуеце прывязаць да запаведнай справы. На Вашу думку, тут словы не стасуюцца з дзеяннем?*

— Я мяркую, што ў запаведніках і нацыянальных парках працуюць такія людзі, якія ў найбольшай ступені павінны гэтай канцэпцыі адпавядаць. Іхні лад жыцця павінен быць у поўнай згодзе з этыкай багавейлівасці перад жыццём. Нават у дробязях, без кампрамісаў і выключэнняў. Дарэчы, кампраміс, я лічу, немагчымы ўвогуле. Неэтычныя ўчынкі нельга зрабіць больш альбо менш этычнымі. Іншая справа, што на тое ці іншае дзеянне яны вымушаныя ісці, але ў такім разе трэба адкрыта прызнацца ў яго неэтычнасці.

*— Мы закранаем, бадай, ці не самае балючае месца. Бываючы ў Пушчы, я сутыкаюся якраз з тым, што ёсць да дзёрзкасці грубым адступленнем ад этычных запаведзяў Швейцара. Вось толькі адзін прыклад. У музеі прыроды нацыянальнага парка вы агледзелі стэнды з экспанатамі, паслухалі шмат цікавага і, стараючыся не парушыць гэтае добрае ўражанне, спускаецеся з другога паверха на першы. І вось тут, у самым сэрцы запаведніка, вам прапануюць купіць шкуру зубра. Прычым, ніхто нічога не тлумачыць. Думай, што хочаш...*

— Нельга так. І быць не павінна. Ёсць грані, якія ні пад якою маркай не маем права пераходзіць. Як бы цяжка не было. Хтосьці ўчора тут выступаў і казаў, што ўсё, маўляў,— ідзем на дно. Засталося выжываць. Я разумею, бо і сам не пачуваюся на вяршыні дабрабыту. Аднак з гэтага нічога не выцякае. Ёсць грань... Вам ужо знаёмы прыклад з Саяна-Шушанскім запаведнікам у Расіі. Дырэктар сам выступіў з ініцыятывай валютных паляванняў на сібірскага горнага казла. 1600 долараў за аднаго — і выйсце з "тупіка". Але паглядзім інакш. Калі ты прадаеш тое, што павінен ахоўваць, — пакідай работу. Ты не прыгодны быць на гэтым месцы. Тут нельга дапускаць кампраміса.

Я не выключаю камерцыйную дзейнасць у запаведніку. На здароўе. Арганізуй навуковы турызм, займіся выдавецкай працай, вырабам адзення з сімволікай – маек, хусцінак, шапачак і г.д. Падключы розум і не хавай сумлення. Круціся. Толькі не страляй.

*Запаведнік ці нацыянальны парк ёсць тым асяродкам, дзе прынцыпы этыкі багавейлівасці перад жыццём павінны захоўвацца неўхільна*

На жаль, бяда нашых запаведнікаў у тым, што да гэтага часу большасць іх ачольваюць людзі, загартаваныя на гаспадарцы, на рэсурсным падыходзе – лесаводы, паляўнічтвазнаўцы...

*— Яшчэ – былыя старшыні калгасаў, саўгасаў, ці дырэктары якой-небудзь "сельгасхіміі"...*

-- І тое не іх віна. Іх так навучылі, яны ўжо з такім светабачаннем. Але калі я пра гэта чую зноў і зноў, прабачце, мне нецікава. Нецікава, што ў Саяна-Шушанскім запаведніку дырэктар не знайшоў іншага спосабу знайсці грошы. Мне іх таксама не хапае, але ж я не крычу пра гэта на ўсіх вуглах. Я спрабую вырашыць гэтую праблему так, як можа сабе дазволіць вучоны... Мне куды больш цікава, які стан запаведніка, кожнага запаведніка, у тым ліку, скажам, і Белавежскай пушчы.

Дарэчы, гадоў колькі таму я браў удзел, рыхтаваў заяўку на прысваенне Пушчы статуса аб'екта сусветнай чалавечай спадчыны. Польшча ўжо мела гэты статус, а Беларусь – не. Як жа так? Беларуская Пушча была і нашмат лепш захаванаю, і значна пераўзыходзіла польскую па памерах. На жаль, мушу сказаць, што ў Беларусі тады я не адчуў вялікага энтузіязму, каб гэтую ініцыятыву як мага рухаць, адкрывацца свету, хоць бяспройгрышнасць варыянта, здавалася б, была відавочнаю.

Дык вось, маючы сёння такі высокі статус, гандляваць шкурамі зубра – сімвала краіны, я лічу, няправільна і нягожа. Калі ёсць, дапусцім, праблемы з колькасцю, знайдзіце магчымасць прадаць, падарыць, але не трэба страляць. Ды яшчэ ладзіць такі неэтычны продаж. Захавайце чыстымі рукі. Захавайце твар краіны!

Дарэчы, я ведаю, што сёння дэмакратыя ў Беларусі ўсяляк спрабуе адстойваць прынцыпы суверэнітэту як самастойнай еўрапейскай дзяржавы. У гэтай справе, на мой погляд, сімволіка мае выключна важнае значэнне, трэба толькі ўмела яе падаваць і ні ў якім разе не раскідвацца сімваламі...

*— Мы з Вамі крыху закранулі палітыку, і я прыгадваю, як нязгодныя вучоныя рашэнне яб пераўтварэнні запаведна-паляўнічай гаспадаркі ў Нацыянальны парк называлі палітычным рашэннем. Жыццё паказвае, што сапраўды ўладныя структуры, апелюючы да прыродаахоўных вартасцяў, адхілілі ідэю запаведніка, каб не надта саступаць у правах. Сёння Белавежская пушча апынулася ў руках вузкага кола людзей, не абцяжараных швейцараўскім светабачаннем.*

— Калі я быў народным дэпутатам СССР і начальнікам главка, я сваім подпісам падтрымаў менавіта ўрадавае рашэнне, каб Белавежская пушча стала нацыянальным паркам. Так што ў гэтай гісторыі ёсць і мая несумненная доля вырашальнага голасу. У Беларусі, як здавалася, былі ўсе падставы, каб зрабіць усё правільна. На той час Беларусь уяўлялася рэспублікай, дзе лёгка засвойваюцца ісціны і прыжываюцца ўзоры цывілізацыі. Думалася, дзе як не ў Беларусі нацыянальны парк раскрыецца сваімі лепшымі якасцямі. Можа, я дапусціў прастадушнасць і залішні аптымізм, але гэта рабілася шчыра, з вялікай сімпатыяй да вашай рэспублікі. Падругое, на тэрыторыі былога Саюза і да гэтага часу застаецца дэфіцыт такой арганізацыі ахоўнасці, пры якой бы не адчужалася насельніцтва. Гэта як адзін з аргументаў "нацыяналізацыі" ахоўных тэрыторый. Але справа ў рэшце не толькі ў тым, што і як называецца. Нацыянальны парк зусім не парк культуры. І тут, як і ў запаведніку, турысты маюць права хадзіць толькі тымі сцяжынамі, дзе ім дазволена. Праўда, пры ўмове – калі парк правільна і добра арганізаваны. Прызнаюся, гэтая ўмова была для мяне найістотнай.

*— Напраўду, справа не толькі ў тым, які статус надаць. Важна, як гэты статус рэалізуецца і ў чыіх руках знаходзіцца тая ці іншая ахоўная тэрыторыя.*

— Пытанне "у чыіх руках" застаецца надзённым. З сённяшняй практыкі расійскіх нацыянальных паркаў я ведаю, што яны, на жаль, не выконваюць сваёй задачы. Як на Федэральнай службе лесу былі, так яны там і знаходзяцца, а гэта няправільна. Павінна быць адпаведнае ведамства пры Мінпрыродзе альбо камітэце, а найлепш – асобны дэпартамент па ахоўных тэрыторыях у структуры Кабінета міністраў. Я не ведаю, як у вас у Беларусі, а ў Расіі сітуацыя парадаксальная.

Праўда, даходзіла інфармацыя па нейкіх каналах і да нас, што на бе-

## КАНТРАПУНКТ

Фота: Уладзімір Бліноў, "Неруш-прэс"





SUMMARY

***An essay being published, "Reverence towards the life" by Albert Schweitzer, is a starting point of the dialogue between Valeriy Dranchuk, the newspaper's chief editor and Alexander Nikolsky, the professor of elocogy from Moscow, on ethics of reserve business. We publish the decision of international seminar "Love to Nature" which has been held in Kiev. Pages 2-4***

ларускія запаведнікі спрабуюць накінуць планы паставак, розных збораў, нарыхтовак і гэтак далей. Калі гэта так...

*— На жаль, так. Спускаліся адпаведныя цыркуляры з Кіраўніцтва справамі прэзідэнцкай адміністрацыі, якому цяпер падпарадкуюцца ахоўныя тэрыторыі.*

— ... абсалютна бязграматная пазіцыя, што ў прынцыпе недапушчальна. І тут, дарэчы, не мае значэння, запаведнік гэта ці нацыянальны парк.

*— Урэшце, ёсць і закон, які гэта выключае.*

— Насуперак Цыцэрону, пад законы трапляюць не ўсе. Уладная воля парушыла не толькі закон. Тут і мараль, і традыцыі. Ды і сама назва, імідж – *Нацыянальны* парк. Нацыянальны ў тым сэнсе, што гэта нацыянальнае багацце. Здабытак, якому няма роўні. Я люблю расказваць пра стан і арганізацыю нацыянальных паркаў у Злучаных Штатах. Асабліва, калі нашы спрабуюць рабіць грошы на тым, на чым не трэба. Вось, маўляў, арганізуем турызм і будзем з гэтага мець. Там не так. Па сярэдняму нацыянальнаму парку ЗША за год праходзіць прыкладна каля мільёна турыстаў. А інфраструктура, якая забяспечвае турыстычны канвеер, скіравана не на тое, каб рабіць грошы, а на тое, каб максімальна спрыяць зручнасці турыстаў і на тое, каб яны не разнеслі, не растапталі гэты запаведны асяродак. У ЗША на турызме зарабляюць усяго 10 працэнтаў ад гадавога бюджэта. Астатняе адпускае федэральны бюджэт. Працуе таксама механізм размеркавання. Бо ёсць паркі менш дасягальныя і больш дасягальныя, у адных менш турыстаў, у другіх больш. Таму гэтыя 10% пераразмяркоўвае адпаведная камісія кангрэса. Адным словам, галоўнае тут не ў зараблянні грошай, як памыляюцца многія, а ў тым, каб забяспечыць правільную, *неадчужальную* абслугу турыстаў. Я падкрэсліваю гэтае слова – неадчужальную.Трэба імкнуцца, каб людзі мелі належны доступ да нацыянальнай святыні і каб на запаведніках і нацыянальных парках улада рабіла не грошы, а прыродаахоўную палітыку.

*— Без паставак, нарыхтовак, стральбы...*

— Ніякай стральбы на ахоўных тэрыторыях катэгарычна быць не павінна. Як не можа быць аніякіх прыстойных падстаў на тое. Гэта нонсэнс. Бо, зноў жа, запаведнік ці нацыянальны парк ёсць тым асяродкам, дзе прынцып этыкі багавейлівасці перад жыццём мусіць захоўвацца неўнікнёна. Калі ты дырэктар і табе дрэнна і ты не можаш зарабляць ні на чым лепшым, апроч палявання ці іншай сумніўнай дзейнасці, — здай свае паўнамоцтвы, ты не адпавядаеш сваёй пасадзе.

*— Ваша рацыя, спадар Нікольскі! Я нічым не магу запярэчыць Вам і Ваш "экстрэмізм" падзяляю цалкам. Больш за тое. Я ўпэўнены, што большыня людзей, якія працуюць на ахоўных тэрыторыях, ёсць такімі ж швейцараносьбітамі. Але нам з Вамі трэба ведаць, як гэта ўсё выглядае ў жыцці. Вы ўжо часткова сказалі пра кадры, што праводзяць "генеральную лінію". Да таго ж, некаторыя не тое што пра этыку багавейлівасці перад жыццём – самую элементарную міжчалавечую цьмяна ўяўляюць. Бывае і такое, кажу гэта з вопыту...*

-- З часам многае зменіцца. Прыйдуць іншыя людзі. Важна падтрымаць волю да лепшага. І вось тут, памятаеце? — спачатку было слова... Шматлікія праблемы, а іх незлічонае мноства, абавязкова адступяць, калі будуць няўхільна высвечвацца прэсай. Вось я трымаю Вашу газету, гэта таксама дае надзею. Вы заснавалі незалежнае выданне, абвясцілі яго прыродалюбным, асветна-публіцыстычным. Вельмі правільна. Я абавязкова пакажу Вашы нумары сваім студэнтам. Я хачу, каб яны верылі ў сілу слова і стараліся памнажаць яго, насычалі ведамі і эмоцыямі. Я жадаю ўсім Вашым чытачам веры і аптымізму. Будзеце ў Пушчы, нізка кланяйцеся за мяне сусветнай спадчыне. Але галоўнае – беражыце яе.

***Снежань, 1997.***

***Кіеў-Мінск.***



Фотарэпрадукцыя: Неруш-прэс

Васіль Сабалеўскі. Вясна.

# Любоў да прыроды

## Рэзалюцыя міжнароднай школы-семінара (Кіеў, снежань 1997)

*Удзельнікі семінара:*

— лічаць за неабходнае дамагацца гуманізацыі прыродаахоўнага заканадаўства, у прыватнасці, залучэння ў заканадаўчыя акты артыкулаў аб неабходнасці захавання эстэтычных, этычных, іншых гуманітарных каштоўнасцяў і права на існаванне ў натуральных умовах усіх форм жыцця на Зямлі

— падтрымліваюць неабходнасць стварэння адзінай бібліятэкі і анатаваных бібліяграфічных спісаў у рамках праекта "Любоў да прыроды", а таксама прапануюць актывізаваць намаганні да набыцця, перакладу і выдання прац замежных аўтараў па экалагічнай этыцы, эстэтыцы, тэалогіі, этнаграфіі і інш.

— лічаць, што з мэтай асэнсавання гуманітарных аспектаў прыродаахоўнага руху і распрацоўкі азначаных на семінары праблем патрэбны адмысловы навукова-практычны часопіс (папярэдняя назва "Гуманітарны экалагічны часопіс")

— падтрымліваюць прапанову аб неабходнасці залучэння ў класіфікацыю ахоўных прыродных тэрыторый новых катэгорыяў каштоўных аб'ектаў з тым, каб захаваць іх эстэтычную адметнасць

— падтрымліваюць прапанову (А.Нікольскага – ***рэд.***) аб заснаванні экалагічнай экспертызы ў запаведніках і нацыянальных парках (на заалагічныя і батанічныя даследаванні, паляванне ў ахоўных зонах, рэгуляцыйныя адстрэлы, абмежаваную гаспадарчую дзейнасць).

— лічаць за неабходнае вывучыць досвед правядзення Марша паркаў, каб выявіць эфектыўныя механізмы распаўсюджвання прыродаахоўных ідэй і запачаткавання новых традыцый

— падтрымліваюць прапанову аб стварэнні міжнароднай асацыяцыі па экалагічнай мудрасці (экасофіі), адзначаюць цікавы досвед (аб'яднанняў і груп Расіі і Украіны – ***рэд.***)... па вывучэнні і папулярызацыі экалагічнага фальклору

— лічаць за вельмі актуальныя працы па вывучэнні, маніторынгу сацыяльна-эканамічнага атачэння прыродна-запаведных тэрыторый для паляпшэння іх планавання, кіравання і дачыненняў з насельніцтвам

— лічаць за надзвычай актуальную і вартую ўсякай падтрымкі справу па падрыхтоўцы прыродаахоўных кадраў сацыяльных работнікаў: менеджэраў ахоўных тэрыторый, эколагаў-музеезнаўцаў, менеджэраў экатурызму

— занепакоеныя тым, што новыя школьныя падручнікі па біялогіі, заалогіі і батаніцы з-за сухасці ды залішне груваскай тэрміналогіі не спрыяюць з'яўленню дзіцячай цікавасці і любові да прыроды, таму патрабуюць перапрацоўкі (маюцца на ўвазе украінскія падручнікі, аднак наўрад ці менш актуальна гэта выглядае, напрыклад, у Беларусі — ***рэд.***)

— адзначаюць, што задачай праекта "Любоў да прыроды" ёсць асэнсаванне аховы прыроды як часткі духоўнага досведу чалавецтва.

## Удакладненне

*У папярэднім выпуску газеты (№5-6 , 1997) у тэксты пракралася колькі памылак, за якія просім прабачэння і спяшаемся выправіць недакладнасць.*

*На ст.3 першы сказ пятага абзаца трэба чытаць:* "І гора таму, хто падніме руку проці законаў, напісаных у кнізе ***Жывата*** рукою Стварыцеля." *І далей. Апошні сказ першага абзаца трэцяй калонкі павінен чытацца так:* "Як дабудзем тыя несчыслёныя багацці мыслі, паэзіі і перажыванняў бацькоў нашых, калі мы забыліся або ***сказілі*** слова, што выклікае іх?"

*Астатнія заўважаныя памылкі не скажаюць сэнс, таму гэтую праўку рэдакцыя з прабачэннем і ўдзячнасцю пакідае за чытачом.*

## Словам праўды

**(абзац з рукапісу, падрыхтаванага да друку, які можа служыць яскравай ілюстрацыяй гаспадарання наменклатуры на запаведнай тэрыторыі і занядбання навукова-пашанотных традыцый там, дзе яны павінны свята перахоўвацца)**

Мэты і задачы гэтага новаўтварэння (дзяржаўнай запаведна-паляўнічай гаспадаркі — ***рэд.***) афіцыйна абвяшчаліся амаль такімі ж, як і раней, падчас запаведніка. Тым часам на справе ўся дзейнасць была скіраваная ў зусім процілеглы бок -- выключна на дасягненне гранічна высокай колькасці жывёл (аб'ектаў палявання), стварэнне розных выгодаў для высокапастаўленых асобаў, якія прыязджалі ў Пушчу пастраляць. Было распачата будаўніцтва ўсялякіх будынкаў і збудаванняў, сеткі асфальтаваных дарог і шмат чаго іншага. Егерскі склад і лясная ахова былі адлучаныя ад навуковага аддзела. Калі вынікі дзейнасці новага для Пушчы паляўнічага аддзела і егерскай службы не афішаваліся або нават трымаліся ў сакрэце, дык работа лясніцтваў ацэньвалася толькі па колькасці нарыхтаванай у планавым парадку драўніны з абавязковымі ў такім выпадку сацспаборніцтвам, пераходнымі чырвонымі сцягамі, прэміямі, каштоўнымі падарункамі. Пад аховай прыроды разумеліся толькі захады барацьбы з браканьерствам ды ізаляцыя Пушчы ад пранікнення ў яе непажаданых асобаў. Усё гэта прыкрывалася ідэяй забеспячэння запаведнасці Пушчы, прычым немалую двухсэнсоўную ролю павінен быў браць на сябе навуковы аддзел.

**Ул.А. Дацкевіч**. *Гістарычны нарыс і некаторыя вынікі арніталагічных даследаванняў у Белавежскай пушчы (1945-1985 гг.) Рукапіс,1997*

# Птахі вяртаюцца з раю

## З нататніка фальклярыста

*Таццяна Валодзіна*

Вось і мінае зіма, такая сёлета неўраўнаважаная, незычлівая. Нярэдка гэтым часам вясна ўжо пераступала парог, пасылаючы Зямлі цёплыя дажджы і звонкія галасы абуджэння. Першае па зіме свята – Саракі, дзень, астранамічнага раўнадзенства і загукання вясны, дзень, які з'яўляўся, магчыма, старажажытным праваобразам пазнейшых Вялікадня і Масленіцы.

У кожнай вёсачцы чакалася сорак выраяў — сорак відаў птушачак вярталася на Радзіму. І сарока сорак шчэпачак сабрала сабе на гняздзечка. Ляцелі дадому птушкі і неслі з сабой на крылах вясну.

*Ой, ты жаваронку,*
*ранняя птушына, гэй!*

Трэба прызнаць, што матыў прынясення вясны менавіта птушкамі агульнаіндаеўрапейскі. І заснаваны ён на ўяўленнях пра птушак як пасярэдніках між зямлёй і раем(выраем), паміж *гэтым* і *тым* светам. І сапраўды, птушкі адлятаюць у *вы-рай,* туды, куды пераходзяць душы



* *вясновы карагод "Перапёлачка", в.Тонеж Лельчыцкага раёна*

продкаў нашых і куды коціцца сонца-вясна. Таму на Сараке найпершая ўвага і надавалася менавіта птушкам, а праз іх — і продкам. Гаспадыні пяклі пячэнне ў выглядзе птушачак, жаваранкаў, часам надавалі яму выгляд буслінай лапкі. Дзеці, шчаслівыя ўжо адно з гэтае нагоды, падкідвалі птушачак угору, каб лягчэй ім ляцець было, каб прынеслі хутчэй вясну чаканую:

*Жавароначкі, прыляціце,*
*Вясну, лецейка абудзіце,*
*Ну, а зімачку адганіце...*

Паўсюль выпякалі таксама сорак булачак, балабашак, бабошак. Іх аддавалі жывёле, берaглі да першага выхаду ў поле, каб пакласці-закапаць у зямельку. Часам іх неслі ў сусекі з жытам. І былі гэтыя балабашкі нібыта ахвярай продкам самім, ахвярай, якую панясуць да іх птушкі ў вырай. Пяклі яшчэ з цеста сорак яечак, сорак саламяных гняздзечак – каб куры несліся ды не хадзілі па чужых дварах. Хлопчыкі яшчэ да сонца, не мыўшыся і штаны не надзеўшы, збіралі ў двары сорак шчэпачак і неслі іх пад печ, каб знайсці ўлетку сорак пёрак птушыных, ну а самім быць моцнымі як той прыпек.

А дзяўчаткі заводзілі на вуліцы песні вясновыя, танкі вадзілі.

А з чаго ж гэта ўзялі: птушкі ляцяць у *вы-рай?..* І з чым адтуль вяртаюцца? Памятаеце? Птушка б'ецца ў акно – вестку нясе... Варона ў двары закрычыць – што яна там вяшчуе? Пра сароку і казаць няма чаго – вестку на хвасце прынесла... Пачуўшы саву ў двары, дзеўкі баяліся, каб не наслаў лёс пазашлюбнае дзіцятка... А бусел і не пытаецца – сам дзетак носіць... Што да зязюлькі, дык хто з нас не прасіў гарэзу, каб наваражыла-накукавала, колькі на свеце пажыць давядзецца; палескія ж дзяўчаты прасілі, каб падказала, колькі ім яшчэ ў дзеўках сядзець.

Як бачым, птушкі нясуць да нас весткі аб нараджэнні, вяселлі, смерці. Яны – быццам лёс нам вяшчуюць. Узнікае часам пытанне: адкуль жа ў іх гэткая інфармацыя, адкуль яны што ведаюць? Адказ просты і відавочны: з выраю, з раю, дзе продкі, што ўсё бачаць і ведаюць, шлюць да нас свае весткі.

А яшчэ, згодна з павер'ем, перакінуўшыся ў птушак, самі душы ляталі. Хто не чуў беларускую песню-баладу пра маладую жанчыну, што на чужыне два гадочкі цярпела, а на трэці шэрай зязюляй дамоў павярнулася-прыляцела?..

### *Зязюля кувала, лешчка казала...*

Калі кувала на досвітку і ў той час, як дрэвы апрануцца ў лістоту, дык і год, казалі, будзе ўраджайны, а калі на голы лес ды ўвечары – будзе голад і ліха. Раяць, пачуўшы першы раз зязюлю, пазвінець грашыма ў кішэні (апошнім часам хіба што пакамечыць "зайцоў"?), каб увесь год "на грошах" быць. Кажуць, кукуе зязюля толькі да Пятра, бо потым, падавіўшыся коласам,ператвараецца ў каршуна.

### *Чаму, верабейка, не жэнішся?*

На жаль, усё радзей на гарадскіх вуліцах пачуеш маленькага верабейку – такога па-роднаму сціплага ды пацешнага. Нашыя продкі звязвалі з гэтай птушкай шмат прыкмет і павер'яў, сярод якіх вылучаецца эратычна-шлюбная тэматыка: верабейка ўвасабляў у народнай творчасці хлопца, што любіў пагуляць і збіраў-склікаў дзяўчат на вуліцу

*—Чаму, верабейка. не жэнішся?*
*Прыйдзе пара, дзе ты дзенешся?*
*— Ды мне ў гэтым бары пары няма...*

Магчымае меркаванне, што ў старажажытнасці існавалі гульні, якія і мелі за мэту пасобіць моладзі ў шлюбным выбары. І верабейка там, як запраўскі распарадчык, зводзіў-злучаў маладых ды і сам выглядаў сабе пару.

Здавалася б, колькі птушак вакол нас — і на вуліцах, і ў лесе, і ля вады. Адны ў суседстве з чалавекам, другія, наадварот, трымаюцца воддаль. Так і ў фальклоры: вобразы адных дэталёва распрацаваныя, другія ўзгадваюцца толькі раз-пораз. За ўсіх болей шанаваўся бусел – сімвал усёй Беларусі, бусел — як бог, як бацька-бацян.

### *Дзе быў, салавейка ?*

Вобраз салавейкі— гэта вобраз каханага, брата, жаніха ці маладога мужчыны. Неад'емны ад тэмы кахання, ён, пясняр і ўлюбёнец, славіць яго -- апявае каханне, абяцае каханне, заваблівае да кахання. Аднак ён жа прыносіць вестку аб здрадзе, не ўе гняздзечка, аддае сястру ці сяброўку за нямілага. У цэлым вобраз салаўя сімвалізуе нежанатага хлопца, які не хоча, не жадае шлюбу, альбо маладога мужчыну, што не знайшоў у шлюбе свайго шчасця.

*"Дзе была, зязюленька,*
*дзе быў, салавейка?*
*Зляцеліся яны на адно падвор'е"*

І так бывае ў жыцці.

Хутка зарадуе салоўка нас сваім спевам, хутка пачне варажыць зязюля. А да Благавешчання, як кажуць, хоць лёдам падавіцца, але абавязкова з'явіцца бусел. Лятуць птушкі на Радзіму, лятуць, і часам так горка ад таго, што людзі, якія лічацца істотамі разумнейшымі, Радзімы выракаюцца. Памятаеце, Янка Купала пісаў пра гусей:

*Знаю, зложыце тут косці,*
*Толькі злётаеце ў госці*
*Асвяжыці грудзі.*
*Бо не ўмееце вы, гусі,*
*Выракацца Беларусі,*
*Як умеюць людзі.*



Фота: Аляксандр Казулін

SUMMARY

Scenes of first spring festivals connected with arrival of birds, revive in articles by a student of folklore. Here you can find also an advertising poster devoted to meeting with storks.

---

# Браткі беларусы!

**Вясна на падворках...**
**Вітайце буслоў, што вярнуліся**
**у край наш, лясны ды азёрны,**
**да роднае хаты,**
**да мілага ўлоння прыроды.**
**Ладкуйце буслянкі.**
**Цягніце на дрэвы, на вышы будынкаў**
**бароны ці колы з падводаў—**
**рознаўсялякі прыдатны рыштунак.**
**Хай ведаюць птахі:**
**на гэтай зямлі іх заўсёды чакаюць.**
**Хай кожны, хто шчасця жадае**
**сабе і нашчадкам,**
**саўе яго**
**разам**

*Увага рэдакцыі.* Каб нашы заклікі дапамагчы буслам пачулі многія, скарыстайцеся такой парадай. Зрабіце ксеракопію на стандартным аркушы А-4 і расклейце яе ў людных месцах, якія толькі ведаеце і якія даступныя вам. Жадаем поспехаў!

Зялёнае агенцтва "Неруш-прэс"

# Галандскія "зялёныя" судзяцца

## Рэдакцыя "БП" з усёй адказнасцю паставіцца да першай такой жа спробы беларускіх прыродазаступнікаў

*Віталь Прошча*

Галандскія грамадзяне — і аб'яднаныя, і не аб'яднаныя ў экалагічныя таварыствы – зацята абараняюць сваё прыроднае наваколле. Збіраюць і распаўсюджваюць важныя звесткі, адстойваюць інтарэсы прыродаахоўнікаў, звяртаюцца ў адміністратыўныя і судовыя органы. У шматлікіх выпадках парушэння прыродаахоўнага заканадаўства асобныя грамадзяне альбо "зялёныя" арганізацыі не без поспеху скарыстоўваюцца магчымасцю паўплываць на становішча справы.

Нягледзячы на пэўную агульную розніцу паміж намі, досвед Галандыі тымчасам вельмі карысны для Беларусі з прычыны падабенства судовых сістэм, а значыць і магчымасцяў беларускіх прыродазаступнікаў дзейнічаць больш эфектыўна – абараняць прыроднае асяроддзе з дапамогай судоў. Прынамсі, наша айчынная судовая практыка пакуль што не ведала выпадкаў такога разбіральніцтва, што на фоне хуткага збяднення і заняпаду прыроды выглядае больш чым красамоўна.

На звыклае пытанне "а ці будзе гэта мець сэнс" ёсць пакуль што адзіны суцяшальны адказ: "Калі хочам жыць на гэтай зямлі, трэба спрабаваць..."

### Тысячы непададзеных зыскаў

Варта, бадай, адразу зазначыць, што паказваючы судовую практыку Галандыі, рэдакцыя не мае за мэту рабіць параўнальны аналіз, судносячы яе з беларускай. Справа не ў падабенстве ці разыходжанні тых або іншых нормаў і механізмаў судавытворчасці, а ў свядомай неабходнасці нам, беларускім "зялёным", гэта рабіць (чытай, судзіцца) і тым самым удасканальваць судовую практыку незалежна ад узроўню і "спеласці" нашай айчыннай судовай сістэмы ці ад таго, здольная яна сёння эфектыўна забяспечваць прававыя дзеянні альбо не.

Што датычыць экалагічнага фону, на якім гэтыя дзеянні могуць разгортвацца, тут, спадзяёмся, беларускі чытач лёгка зарыентуецца сам: тысячы зыскаў хоць сёння можна падаваць у адпаведныя органы судавытворчасці. Пакуль пішу гэтыя радкі, у акно з чацвёртага паверха бачу, напрыклад, бераг Свіслачы – самай бруднай ракі ў Беларусі; як сведчаць эколагі, гальванічныя цэхі Мінска працягваюць скідваць шкодныя рэчывы ў звычайную каналізацыю. Адным словам, не трэба хадзіць далёка. І тысячы зыскаў, калі ўважліва кінуць вокам, — зусім не перабольшанне.



Дык вось. У Галандыі прынята некалькі экалагічных законаў: напрыклад, *"Закон аб ахове навакольнага асяроддзя", "Закон аб барацьбе з забруджаннем паверхневых водаў", "Закон аб ахове глебаў", "Закон аб барацьбе з забруджаннем паветранага асяроддзя"*. За парушэнні прадугледжаны адпаведныя санкцыі. Крымінальны кодэкс Галандыі прадугледжвае крымінальнае пакаранне за прычыненне шкоды здароўю людзей.

Суд, сваёй чаргой, абавязаны патрабаваць выканання законаў, даваць інтэрпрэтацыю іх палажэнняў. Менавіта на гэтыя, самыя важныя задачы судоў і арыентуюцца сёння ў сваёй дзейнасці прыродаахоўныя арганізацыі Галандыі.

Аднак яшчэ на пачатку 70-х падстаў для аптымізму было няшмат. І "зялёныя", і праваахоўныя арганізацыі сутыкнуліся з вялікімі перашкодамі. Іхнія патрабаванні вельмі лёгка, без дастатковых на тое падстаў, адхіляліся. Слуханні спраў прызначаліся толькі на раннія гадзіны, калі большасць людзей былі на працы. Здаралася, у кантора не давалі здымаць ксеракопіі з дакументаў альбо ўвогуле утойвалі іх ад прыродазаступнікаў. Улады нярэдка дэманстравалі выключныя здольнасці супраціўляцца, былі гатовыя да барацьбы з апанентамі.

Але з гадамі становішча пачало мяняцца. Маніпуляваць грамадзянамі рабілася ўсё цяжэй. Кіраўніцкі апарат патроху засвойваў ісціну, што ягоны першы абавязак – служыць людзям. Сваёй чаргой, сябры "зялёных" суполак куды лепш, чым раней, арыентаваліся ў мностве юрыдычных актаў, набывалі салідны запас юрыдычных ведаў і, што асабліва істотна,— навучыліся вылоўліваць патрэбную інфармацыю, з якой мог бы пачацца судовы клубок.

### Слухаецца справа...

Адной з паспяховых і ўзорных судовых спраў, што ўвайшлі ў гісторыю "зялёнага" праваахоўнага руху Галандыі, з'яўляецца справа "Амбт Дэлдэн", датаваная канцом 1992 года.

Як вядома, буйныя жывёлагадоўчыя фермы прадукуюць шмат аміяку, які з-за высокіх канцэнтрацыяў калечыць навакольныя асяродкі. Паводле "Закона аб спакоі грамадзянаў", у Галандыі, каб штонебудзь вырабляць, трэба мець ліцэнзію з умовою недапушчэння шкоды і ўрону прыродзе. Такая ліцэнзія была выдадзена і на будаўніцтва "комплекса" непадалёку горада Хенгела. Падчас яе выдачы ад мясцовых уладаў патрабуецца ўлічваць разам з іншымі чыннікамі (напрыклад, наяўнасць лясоў, іншых прыродных зонаў) і такую акалічнасць, як акумуляванне ўрону; у дадзеным выпадку – празмерна высокая канцэнтрацыя аміяку з прычыны вялікай колькасці ў гэтым раёне такіх жа ферм.

Якраз гэтага і "не ўбачылі" мясцовыя ўлады, калі выдавалі ліцэнзію. Кожная ферма як бы захоўвала сваю допушчальную норму, але ўсе разам яны стваралі значную пагрозу стану раслiннасцi. І сябры прыродаахоўнай арганізацыі "Сябры Зямлі" заявілі: нельга слепа кіравацца інструкцыяй, улады павінны абавязкова ўлічваць эфект акумуляванага ўрону.

Аміяк, прадукаваны ў раёнах, якія лёгка паддаюцца акісленню, прынёс такія наступствы для асяроддзя прыроды, што і "Закон аб спакоі грамадзянаў", і "Закон аб захаванні навакольнага асяроддзя" забаранілі далейшае павелічэнне яго запасаў.

"Сябры Зямлі" запатрабавалі адклікаць ліцэнзію – на той падставе, што яна была выдадзена з парушэннем патрабаванняў экалагічнага заканадаўства: улады выконвалі "літару" інструкцыі, але не ўзялі пад увагу рэальныя экалагічныя наследкі.

### Рашэнне суда

Адміністрацыйны суд згадзіўся з "Сябрамі Зямлі" ў тым, што ўлады парушылі "Закон аб спакоі грамадзянаў", які забараняе павелічэнне канцэнтрацыяў аміяку ў раёнах, якія ўжо акісленыя альбо лёгка паддаюцца акісленню. Суд ануляваў ліцэнзію, якая супярэчыць аднаму з асноўных прынцыпаў разумнага кіравання – прынцыпу "старанна падрыхтоўкі". Суд адзначыў, што пры выдачы ліцэнзіі муніцыпальныя ўлады Амбт Дэлдэна павінны былі кіравацца не толькі інструкцыямі, але з належнаю ўвагай паставіцца да ўжо набраных высокіх канцэнтрацыяў аміяку на тэрыторыі раёна.

* * *

Гэта толькі адна з многіх дзесяткаў спраў, выйграных "зялёнымі" праз суд, праз права veto. Рэдакцыя "БП" з цікавасцю і ўсёй прафесійнай адказнасцю паставіцца да любой такой жа спробы беларускіх "зялёных" (асобных грамадзянаў ці грамадскіх арганізацый) распачаць судовы працэс. Будзем чакаць.
А між тым, увага грамадскасці паранейшаму прыкаваная да працэсу іншага кшталту – па справе журналістаў Шарамета і Завадскага. Уявіце сабе! Калі б такая ўвага была нададзена справе адстойвання ўнікальных палескіх дуброваў, што знікаюць як маманты на нашай зямлі, а Шарамет і Завадскі раптам змянілі імідж асуджаных на ролю рэпарцёраў гэтага судовага працэса, — як бы выйгралі ўсе мы, і наша свядомасць, і наша прыродная спадчына! Не будзем траціць надзею!

*У публікацыі скарыстаны матэрыялы з кнігі "Галандскія "зялёныя" звяртаюцца ў суд" (Амстэрдам, 1994).*

SUMMARY

***E**xperience of Dutch "Greens" in assertion of their rights through the court is projected to Belarus, where the practice of environmental proceedings only exists in theory.*

# Дзе той “крык, што жыве Беларусь”?

## Замест прадмовы

**Міністру прыродных рэсурсаў
і аховы навакольнага асяроддзя Русаму М.І.**

Шаноўны Міхаіл Іванавіч!

Маю гонар ветліва звярнуць Вашу ўвагу на тое, што гэтаму артыкулу роўна тры гады. Я вельмі хачу, каб Вы яго ўважліва прачыталі. Спадзяюся, бываючы на сусветных экалагічных самітах, Вы цудоўна ўразумелі, наколькі востра сёння стаіць у свеце пытанне аб давядзенні экалагічнай інфармацыі да шырокіх слаёў насельніцтва. Аднак падпісваць Канвенцыі — гэта адно, другое – выконваць іх “літару” ў сябе дома. Я не буду збівацца на пафас артыкула, толькі зазначу: ведамства, якое Вы ўзначальваеце, мае ўстойлівую традыцыю замоўчвання вострых экалагічных праблем. Скажу шчыра: пакуль такое становішча будзе задавальняць Вас як міністра, да таго часу міністэрства будзе заставацца мёртвым. Мне – каб гэта сказаць – дастаткова шматгадовых назіранняў і журналісцкага вопыту. Вам – каб не палічыць надта дзёрзкай маю выснову – дастаткова прачытаць гэты артыкул. Быў ён, дарэчы, напісаны на пачатку Еўрапейскага года аховы прыроды (люты, 1995), а надрукавала яго газета творчай інтэлігенцыі *“Літаратура і мастацтва”* пасля таго як дзве дзяржаўныя – *“Народная газета”* і *“Звязда”* – друкаваць адмовіліся. А прыгадаў я артыкул з выпадку, як мне падаецца, надзвычай важнага: міжнародныя арганізацыі рыхтуюцца прыняць Канвенцыю па доступу да экалагічнай інфармацыі і ўдзелу грамадскасці ў ахове навакольнага асяроддзя. Так што гаворка па тэме, у якой міністэрства цяпер пратакольна зацікаўленае... Няўжо, каб што-небудзь змянілася, застаецца падпісаць яшчэ адну Канвенцыю?

*З павагай і найлепшымі пажаданнямі* **аўтар**

**Н**еяк два гады таму за адным ведамасным сталом, якія прынята называць “круглымі”, я ў пераважным акружэнні людзей з прыродаахоўнага ведамства назваў стан нашай прыроды катастрафічным. І неспадзеў натрапіў на “востры вугал” таго самага стала – саноўны таварыш падняўся ледзь не гарой: маўляў, якая катастрофа, толькі людзей пужаеце ды сееце паніку...

Яму, гэтаму кабінетнаму цнатліўцу, асабліва не спадабалася думка, што мы, беларусы, знаходзімся ўжо ў відавочна іншай рэальнасці – не пад пагрозай, а **ва ўмовах** экалагічнай катастрофы. Некарэктна, даводзіў я, паўтараць фразу аб пагрозе, трэба нарэшце прызнаць – загублена, знявечана, выпатрашана столькі жывой прыроды, што канстатацыя катастрафічнасці нашага агульнага стану не можа выклікаць пярэчання.

Я быў шчыра ўдзячны гэтаму “таварышу”-аптымісту за ягоны водгук. Ён навёў яшчэ на адну думку. У чым рэч? Калі пагадзіцца, што мы жывём ва ўмовах экалагічнай катастрофы, тады ўзнікае іншае поле напружання, пры якім патрэбны іншыя дзеянні, іншыя захады, іншае мысленне. Ранейшыя “правілы” ўжо недарэчы. Яны хіба што могуць пасведчыць (і сведчаць!) аб злачыннай бяздзейнасці і раўнадушшы адказных дзяржаўных асоб, якія – ці гром, ці маланка – захоўваюць спакой і правільны выраз твару. Напрыклад, дагэтуль не магу зразумець: **ёсць у краіне Беларусь цэлае прыродаахоўнае ведамства, якое цяпер называецца Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, — з мноствам службаў, ладным штатам чыноўнага люду, з міністрам, у рэшце рэшт, світай ягоных намеснікаў, інстытутамі маніторынгу, якія ўсе разам на правядзенне “зялёнай” ідэі павінны нібыта жыццё класці, — а мы, журналісты, па сутнасці так і не дачакаліся хоць бы адной прэс-канферэнцыі, дзе на поўны голас загучала б слова праўды і засцярогі з вуснаў гэтага ведамства. На ім, не пабаюся сказаць, ляжыць нерушны знак маўчання.**

Па-першае, заўважу, гэта тады, калі ці не кожная жаба, як сказаў адзін мой калега, сёння рупіцца склікаць прэс-канферэнцыю, выказацца. Па-другое, ледзь не штодзень чыняцца злачынствы ў дачыненні прыроды і наваколля, намячаюцца і здзяйсняюцца праекты ўсё далейшага і глыбейшага адцяснення, а то і спусташэння, у выніку чаго чарговы прыродазнішчальны віток не прымусіць сябе доўга чакаць.

Ніхто, здаецца, не адмяняў і асаблівы статус краіны – зоны экалагічнага нацыянальнага бедства; на высокіх прадстаўнічых форумах сёння пачуеш не ў жарт: *“экалагічны тупік”, “палітыка выжывання”, “экалагічная блакада”, “стратэгія развіцця”*... А што за ўсім гэтым стаіць? І што, урэшце, працістаіць? Інерцыя, стыхійнасць, імператыў замірэння? Ці хваля зялёнага ўзрушэння, наступ экалагічнай свядомасці грамадства?

Лічыцца, што галоснасць, увогуле, — гэта права кожнага называць рэчы сваімі імёнамі. Варта, мусіць, дадаць, што не толькі права, калі гаворка датычыць дзяржаўнай установы, але і святы абавязак, абавязковая функцыя. Дапускаю: крычаць і біць у званы, мабыць, належыць журналістам. Саноўным службоўцам у дадзеным выпадку – **добрасумленна, адкрыта і аб‘ектыўна даводзіць да журналістаў інфармацыю пра сапраўдны стан навакольнага асяроддзя, магчымыя і дзейныя шляхі выйсця з тупіка, пры гэтым навязваць грамадству і адэкватную сістэму паводзін чалавека ў цяперашніх умовах.**

Кажуць, наша інфармацыйная прастора пашыраецца. Тэматычны спектр усяго, што чуем і чытаем, патроху ўзбагачаецца. Аднак відавочна, у ім бракуе “зялёнай” фарбы. Толькі асобныя газеты шануюць экалагічную тэму, большасць звяртаецца да яе, як кажуць, пад настрой. Вельмі горка, што дагэтуль Беларусь не мае паўнакоштнага добра ілюстраванага папулярнага выдання, якое б на годным узроўні прадстаўляла прыроду Беларусі, акумулявала экалагічную свядомасць і духоўную энергію грамадства. Часопіс *“Родная прырода”*, мала таго, што выданне вузкаведамаснае і, на жаль, гэтай традыцыі моцна трымаецца, — яшчэ і згортвае сваю дзейнасць: з 1993 года перайшоў на шасціразовы гадавы цыкл замест ранейшага штомесячнага. Перастаў рэгулярна выходзіць і экалагічна-сацыяльны тыднёвік *“Набат”*, гады ў рады знаходзіць чытача *“Экалогія Мінска”*, адпаведныя выпускі знялі з праграм радыё і тэлебачання. Мялеюць, адным словам, ручайкі экалагічнай інфармацыі на Беларусі, тым часам як у свеце адбываецца працэс “пазелянення” інфармацыйнага патоку, паглыблення плыняў экалагічнай галоснасці.

Летась мне давялося наведаць некалькі семінараў розных ініцыятыўных цэнтраў, якія вядуць незалежнае ад дзяржавы даследаванне экалагічных праблем. Збіраецца на іх падрыхтаваная, цікавая публіка – бліскучыя аратары, разумныя палітыкі. Але не раз падумаеш: як цесна гэтым размовам у чатырох сценах! І чаго вартыя высакародныя ў сваёй большасці намаганні, калі яны не маюць шырокага выйсця на грамадства, на людскую думку.

Няхай сабе выпрабаванае чынавенства не любіць “засвечвацца” перад журналістамі; столаначальнікі з большай ахвотай ідуць на дыван да вышэйшага (але свайго!) начальства, чым на прэс-канферэнцыі. Затое ад новаўтвораных, недзяржаўных структур дэмакратычнага выбару, якія абвясцілі сябе ў той ці іншай меры прыродазаступнікамі, грамадства мае ўсе падставы чакаць больш цесных стасункаў

*Працяг на с.10*



*Чапля.*
*Фота: Вільгельм Дубіловіч*

SUMMARY

*Appealing to the Minister of Protection of Environment, the author reasonably and in detail expresses his view on the problem of public relations and environmental publicity in the country. In particular, a tendency is still kept to restrict delivery of information to broad layers of population, to abstain from various comments concerning numerous phenomena and events. The practice of holding of briefings and press-conferences is almost absent.*
*Pages 7,10*

 



# Фаталірыка Ўладзіміра Блінова

*Хоць яшчэ дзе-нідзе ляжыць снег і выдаюцца халодныя дні, вясна не за гарамі. Часам так і хочацца ўявіць абшары ў траўна-зялёным убранні, поўныя пахаў, адценняў, шолахаў-згукаў. А яшчэ лепш, калі думкі перанясуць нас на абагрэтыя ўзвышкі, на абуджаныя лясныя паляны, на мокрыя балацявінкі, да вербалоззя, у дубровы ды альшанікі...*

*Сёння мы раскрываем папку адметнага фатамайстра Уладзіміра Блінова. Біёлаг па прафесіі, ён здымае прыроду няспешна і ўдумна, не збіваючыся з яе ўладных рытмаў. Хутчэй даследуе, чым любуецца. А большасць, гледзячы на яго працы, — найперш любуецца. І абавязкова здзіўляецца творчаму багаццю прыроды і чалавека, які здолеў перадаць яе настрой, яе разнастайнасць і хараство.*











*На газету "Белавежская пушча"*
*Вы можаце падпісацца з любога дня.*
*Скарыстайцеся падпісным каталогам*
*і нашым індэксам — 63267*



 



*На здымках:*
- *улонкі Нёмана блізу Карэлічаў*
- *у нерушах Бярэзінскага біясфернага запаведніка і нацыянальнага парка "Прыпяцкі"*
- *сон-трава*

***Нацыі з моцна выяўленым пачуццём прыроды, такія як немцы і славяне, адольваюць нават самыя цяжкія выкруты лёсу і маюць неверагодную здольнасць адраджацца. Таму ўрад, які хоча падтрымаць пачуццё прыроды свайго народа, разумны, і дзеля гэтага ніякія ахвяры не могуць быць залішне вялікімі і ніякія сродкі -- маленькімі, бо кожны, хто спрыяе ахове прыроды, служыць свайму народу.***

***Г.Лэнс,***
***нямецкі пісьменнік***









 

# МАЮ ГОНАР! I HAVE THE HONOUR!

Галоўнае прырода-ахоўнае ведамства краіны мае ўстойлівую традыцыю "ненавязлівага сервісу" ў справе давядзення экалагічнай інфармацыі да шырокіх слаёў насельніцтва

са ст.7

з "масмедыа". Але чаму ў такім выпадку колькасць экалагічных грамадскіх арганізацый (партый, фондаў,саюзаў, асацыяцый) павялічваецца – і дзякуй богу! — а дзіркі экалагічнай галоснасці па-ранейшаму зеўраюць?

Мы ўсе добра памятаем, як тры гады запар штолета гарэлі беларускія лясы, узнімаючы дзе-нідзе хмары радыяцыйнага бруду...

Ведаем, якая няпростая і ў эканамічных, і ў экалагічных адносінах сітуацыя склалася на Палессі вясной 1994 года...

Разумеем, які спектр актуальных пытанняў, у тым ліку звязаных з навакольным асяроддзем, выклікае стан энергетыкі і разам з ім ідэя будаўніцтва на Беларусі атамных электрастанцый...

Збольшага чулі, што падпісана альбо ратыфікавана тая ці іншая міжнародная прыродаахоўчая канвенцыя, тым самым Беларусь ускпала на сябе дадатковыя абавязкі і вялікую адказнасць...

Былі буйныя аварыі на Сэрвечы, у Наваполацку, згушчаліся чуткі вакол прыгранічнай Ігналінскай АЭС...

Прыходзіў і адыходзіў "месячнік цішыні" – май, чэрвень – надзвычай важны перыяд у жыцці жывой прыроды...

На працягу года здараліся кліматычныя анамаліі, якія датычылі экалагічнай бяспекі людзей...

Час ад часу інфармацыйныя пласты іскрылі фактамі ўвозу на тэрыторыю Беларусі чужых радыеактыўных адходаў...

Хваля браканьерства захліствае наш лясны ды азёрны край. Гінуць каштоўныя віды дзікіх жывёл і птушак, пад кулі трапляюць зубры...

Штогод размяркоўваецца шматмільярдны пазабюджэтны экалагічны фонд – фонд экалагічнай бяспекі і прыродаахоўнай дзейнасці...

Пералік актуалій можна доўжыць і доўжыць. Усе яны – своеасаблівыя тэсты на галоснасць, на адкрыты дыялог перш-наперш афіцыйных службаў з грамадскай думкай, на тое самае права называць рэчы сваімі імёнамі. **Усе гэтыя актуаліі чакалі мноства пытанняў і адказаў, неабходных каментарыяў, засцярог, журналісцкай уніклівасці.** І, аднак, усе яны, нават самыя, здавалася б, удзячныя з пункту гледжання выхаваўчай "сходнасці", ціха, калі не сказаць абыякава, праігнараваны інстытутам дзяржаўнай прапаганды. "Дыпламаты" ад вышэйшай айчыннай бюракратыі рабілі дакладны разлік: лепш перасядзець у сваіх утульных міністэрскіх гнёздах, і ўсё абыдзецца ціха. Не выйдзем мы, не прыйдуць і да нас.

Тым часам, па маіх назіраннях, адзін раз на тыдзень можна сабраць прыстойную журналісцкую аўдыторыю, каб данесці да насельніцтва вельмі надзённую інфармацыю. Для гэтага ёсць не толькі свежыя, аператыўныя падставы. Ёсць і людзі, спецыялісты, чыя грамадзянская пазіцыя, дасведчанасць вартыя ўвагі журналістаў і шырокай грамадскасці.

Вядома ж, [illegible] тэстам і на ўспрымальнасць [illegible] зялёнай ідэі, і на "пад'ём" [illegible] галоснасць канцэптульных акцэнтаў сталася абвяшчэнне Саветам Еўропы 1995



*Паводка на Палессі, 1993*
*Фота з архіва "Неруш-прэс"*

года Еўрапейскім годам аховы прыроды (прычым, папярэдні 1994 год быў падрыхтоўчым і не менш адказным). На мой погляд, і гэты **чарговы тэст засведчыў поўную няздольнасць урадавай структуры з годнасцю паварочвацца да адказнай сумеснай акцыі.** Перш-наперш, не ставала, ды і цяпер не стае інфармацыі. Брыфінгі і прэс-канферэнцыі, як няцяжка здагадацца, ладзілі іншыя зацікаўленыя і, зразумела, з іншай нагоды. У Мінпрыродзе, праўда, склалі "план першачарговых мер", — аднак, па-першае, ён не быў прадстаўлены журналістам, а значыць, грамадству, пра яго ўвогуле мала хто ведаў і ведае сёння, па-другое, мне асабіста ён дужа нагадаў план піянерскай дружыны "лепшых часоў". Самы вялікі недахоп гэтай "цуда-праграмы", бадай, у тым, што ён зусім не стыкуецца з трапяткою і надзвычай канкрэтнай, дзесяцігоддзямі выпакутаванай мэтай – аховай прыроды *па-за межамі ахоўных тэрыторый,* гэта значыць там, дзе прырода ў непасрэдным суседстве з чалавекам-спажыўцом, унутры заселеных тэрыторый. Гэтая ідэя – гармоніі чалавека з жывой прыродай – згубілася за тоўшчай бяздумна нагрувашчаных агульных мерапрыемстваў.

Вярнуся да прэс-канферэнцый зялёнага кшталту, іх вострай неабходнасці ў сённяшнім жыцці грамадства. У сваёй кнізе "Зямля ў небяспецы" віцэ-прэзідэнт ЗША Альберт Гор з крыўдаю ўспамінае, як яго ныя шчырыя экалагічныя прапаведзі, што нагадвалі крык Касандры, нярэдка танулі ў ватным раўнадушшы журналістаў. Мяркую, што ў нейкай меры гэта ўжо ўласціва і нам. Разам з тым, падстаў разлічваць на разуменне з боку нашых нацыянальных крыніц масавай інфармацыі – больш чым дастаткова. Толькі не трэба так бязмерна эксплуатаваць іхні энтузіязм, адгароджваючыся бюракратычнай сцяной раўнадушша. Запачаткаваць цывілізаваныя зносіны з прэсай, напоўніць іх сацыяльна-экалагічным зместам – гэты пункт я і прапаную Мінпрыродзе і іншым зацікаўленым у план Еўрапейскага года аховы прыроды на Беларусі.

Памятаеце, вядомае Купалава: **"...гэта крык, што жыве Беларусь",** якое воляй песняра сімвалізуе найперш жывую прыроду Бацькаўшчыны, яе голас, яе "terra vita"? Так, жыве Беларусь, пакуль жывуць кулікі на яе балотах, пакуль жаўранак чуцён над полем, пакуль абуджаецца ўвесну сон-трава, пакуль ходзіць па нашай зямлі белавежскі зубр...

***Валерый Дранчук***

## ХАРТЫЯ ЗЯМЛІ-92 THE CHARTER OF THE EARTH - 92

# Зялёнае золата Бацькаўшчыны

### Што можа ўрад, каб разам з прыватным сектарам эканомікі, недзяржаўнымі ды іншымі групамі як мага паспрыяць нацыянальнаму ляснному фонду, старым лясам*

**П**авялічваць пасадкі новых лясоў, зніжаючы нагрузку на асноўныя лясныя фонды і старыя лясы. Засяваць дзялянкі між дрэваў карыснымі культурамі для павышэння каштоўнасці лесу

**В**ыводзіць пароды дрэваў, больш прадуктыўныя ды больш устойлівыя да экалагічных нагрузак

**З**мяншаць колькасць забруджвальных рэчываў, якія ўплываюць на стан лесу, у тым ліку трансгранічныя выкіды

**В**ыкарыстоўваць экалагічна правільную, больш эфектыўную і менш "брудную" методыку лесапавала, пашыраць вытворчасць дрэваапрацоўкі ў раёне лясных абшараў

**С**караціць да мінімуму драўнінныя адходы, садзейнічаць развіццю малых прадпрыемстваў, якія скарыстоўваюць лясную прадукцыю

**П**авялічыць дабавачную цану за кошт працэса другаснай апрацоўкі ляснох прадукцыі з мэтай павелічэння занятасці насельніцтва і даходаў ад кожнага нарыхтаванага дрэва

**Р**азвіваць гарадскую лесагаспадарку для азелянення ўсіх жылых раёнаў

**П**ашыраць выкарыстанне такіх лесапрадуктаў, як лекавыя расліны, фарбавальнікі, фураж, стымуляваць працу мясцовых майстроў-умельцаў

**З**аахвочваць тыя віды скарыстання лесу, якія прычыняюць мінімальны ўрон, напрыклад, экалагічны турызм

**С**адзейнічаць рацыянальнаму кіраванню прылеснымі тэрыторыямі, з тым, каб зніжаўся ўрон і ўціск

**С**твараць і пашыраць сістэму ахоўных тэрыторыяў з мэтаю захавання часткі лясоў

** Паводле рэкамендацыяў, выпрацаваных Канферэнцыяй ААН па навакольным асяроддзі і развіцці "Сустрэча ў вярхах у інтарэсах Зямлі" (Рыо-дэ-Жанейра, 1992)*

*Удзел Беларусі ў падобных сустрэчах асвятляўся, як правіла, тэлеграфным радком, а прынятым і падпісаным краінай (ужо суверэннай) важным дакументам не надаваўся належны рэзананс, што можна патлумачыць адсутнасцю экалагічнай інфармацыйнай палітыкі і пазіцыяй стрыманасці да гэтай праблемы з боку дзяржавы.*



*Фота Валерый Дранчук*



 

# КОЛА

CIRCLE



## Сыноўняе слова ў вянок беларускай патрыётыкі

Дзякуй за публікацыю “Родная мова”. Гэтым Тэкстам (знарок пішу з вялікай літары) можа ганарыцца любы беларус. Але я вырашыла адгукнуцца дзеля таго, каб засведчыць сваю надзвычайную павагу да Вацлава Ластоўскага і нагадаць, можа, тым, хто яшчэ не ведае гэтага аўтара, бліскучага інтэлектуала, што ён напісаў вялікае мноства і па-свойму прыгожых, і пранікнёна-трапных публіцыстычных твораў, якія ўскалашаюць беларускую патрыётыку. Асаблівая адметная ягоная крыўска-васількоўская праца “*Што трэба ведаць кожнаму беларусу*”. Тут усё проста і хораша – як у сялянскай хаце. Як у полі і лесе. Дазволю невялічкае цытаванне пра Бацькаўшчыну: “*Нашая Бацькаўшчына – прыгожы край. Багата ў ёй красы: харошая ў нас вясна і лета, восень і зіма. Нашыя пушчы, лясы і абшары апавітыя паэзіяй, з якое праглядае нашая мінуўшчына*”. Пра народ: “*Мы гордыя з свайго народу. Усякі іншы народ, жывучы ў такіх цяжкіх умовах, якія выпалі на нашу долю, загінуў бы, а наш народ выказаў незвычайную жыццёвую сілу. Ёнператрываў усякія злыбяды, ліхалецці і напасці ды перахаваў у сабе сваю родную мову і любасць да свае Бацькаўшчыны Беларусі. Наш народ любіць праўду і красу — ён спакойны і разважны, а пры гэтым станоўкі і цвёрды.*” Кажучы пра Праваслаўную Царкву і Каталіцкі Касцёл на Беларусі, аўтар жадае, “*каб былі яны творчым дзейнікам для беларускага народу, каб... у святынях пашыралася любоў да свайго беларускага краю, беларускае мовы, беларускіх звычаяў, беларускае культуры...*”

Цытаванняў можа быць шмат. Але я мушу захаваць меру. Вельмі хацелася, каб вашы чытачы ведалі, што “разумнае, добрае, вечнае” сеялі многія сапраўдныя патрыёты, сярод якіх ззяе і зорка Вацлава Ластоўскага. Не ўсё паўзыходзіла, шмат пайшло на глум і здзек. Але халады, якія дагэтуль сціскаюць беларускую зямлю, не вечныя. Шчырае сыноўняе слова абавязкова ўскаласіцца.

**_Хрысціна Фенька,_**
*бібліятэкар, маці і бабуля.*
Гродна

## “Вяртанне ў некралог” ёсць перасцярогай на будучыню

Шаноўны рэдактар!

У апошнім нумары Вы ўзгадалі пра драматычны момант з біяграфіі белавежскага зубра. Публікацыя называлася “Вяртанне ў некралог”. Я асабіста быў прыемна здзіўлены, як немцы паставіліся да рэдкай жывёліны ў чужых (нашых) лясах – збіралі, бедалагі, па дрыгвах ды балотах астачы зуброў, радаваліся, напэўна, кожнай рабрыне ды костцы, каб папоўніць свае музейныя калекцыі. На маю думку, гэта зусім неблагі прыклад, хоць патрапіў ён у канкрэтны адмоўны кантэкст ( вораг ёсць вораг). Дарэчы, тыя ж немцы, як раней пісала Ваша газета (№1, 1995), дапамаглі затым палякам узнавіць белавежскага зубра на ягонай радзіме. А па-другое, колькі мы бачылі прыкладаў нашай, айчыннай абыякавасці да свайго, жывога і цэлага (а не да ацалелых костак), у тым ліку з боку тых жа музеяў, навуковых аддзелаў і гэтак далей.

Так што тут лепш за ўсё засяродзіцца на прыродазберагальнай, прыродапазнавальнай руплівасці, на збіранні і падбіранні таго, што ёсць захаванай каштоўнасцю, рэдкім і непаўторным (часам, апошнім) экземплярам.

Цяперашняя сітуацыя, калі ў нас, маўляў, яшчэ ацалела тое, што не ацалела ў іх (у краінах больш цывілізаванага Захаду), хутчэй робіць нас абыякавымі, расхалоджвае, а не бадзёрыць. Тым часам захаваць апошняе ці проста выпадкова ацалелае вымагае вялікіх супольных старанняў людзей і падтрымкі дзяржавы. Аднак гэтага не відаць, усё вельмі ціха – быццам на могілках.



*Зона адчужэння. Пакінутая спудня. 1996*
*Фота: Аляксей Мацюці*

Напрыклад, што робіцца ў нашых лясах, людзі не ведаюць. Не ведаюць поўнай праўды, рэальнай карціны, бо няма грамадскага (на навуковым грунце) кантролю. Трывожную тэндэнцыю пацвердзіла публікацыя Вашай газеты з красамоўнай назвай “*Падзенне Белавежскай пушчы*”. На жаль, такіх матэрыялаў сёння вельмі мала. А вось чаго многа – хамства так званых прыродакарыстальнікаў, браканьерства, прыродапакарэння магнатаў-забудоўшчыкаў і іншых. Чаму пра гэта маўчыць наша прэса, не дае адпаведнай, праўдзівай статыстыкі?

Нарыс Фядзюшына, які Вы ўзнавілі не проста так, лічу, ёсць несумненнай перасцярогай у адносінах не толькі да зубра, але да ўсёй нашай прыроды і Бацькаўшчыны. Да беларуса, ў рэшце рэшт, да нашага этнасу. На фоне Чарнобыля, на фоне сённяшняй дзяржаўнай палітыкі, якая праігнаравала, адкінула ўбок ідэю нацыянальнага Адраджэння, трэба ўсё ж спадзявацца на лепшае. У тым ліку на Вашу газету, на яе чытачоў і ўсіх сумленных людзей, якія хочуць дабра краіне.

**_Людміла Рудзянкова,_**
*настаўніца,*
Мінскі раён

## Псіхалагічныя змены ў чалавечым ландшафце мяжуюць са зменамі ў гідралагічным

Як і першы, другі выпуск “Аўтографа” мяне парадаваў і засмуціў адначасова. Газета робіць вельмі карысную справу, калі дае шырокую і падрабязную панараму нашых галоўных нерушаў – ацалелых абшараў прыроды. Спадабаўся гістарычны нарыс Анатоля Угляна, дзе ёсць рэчы і факты, якімі можа ганарыцца кожны беларус. Змястоўная публікацыя пра балоты Валерыя Хмялеўскага.

Аднак сёння гэты рэгіён перажывае час, пра які, можа здарыцца, нашчадкі будуць казаць, не хаваючы папроку ў наш бок. А здарыцца можа тое, што багацці Палесся пойдуць у распыл. Напрыклад, мне, сярэдненіфармаванаму чалавеку, стала вядома аб задуме чыноўнікаў пасярод парка распачаць прамысловы выраб паркету. Яшчэ засталося трохі дуброваў – вось іх і хочуць прыбраць, каб папоўніць казну. Хіба сыны так робяць у роднай хаце?

Час ад часу наязджаючы ў Тураў (сам я стала жыву ў Брэсце), бываючы ў лясных вёсках, бачу, як тут змяніліся і як мяняюцца людзі. Самае горшае, што пачалі баяцца гаварыць праўду, выказвацца. Атмасфера ўзаемнай падазронасці і недаверу зрабілася нормай. З начальствам не раяцца – не ведаюць, чаго можна чакаць, і ці не паплоцяцца часам за свае словы.

Сацыяльная напружанасць, што пануе ў краіне, вядома ж , цісне і на рэгіёны, спараджае мясцовыя вычварныя з'явы. Нацыянальны парк як вялікая і надзвычай спецыфічная гаспадарка не можа складаць выключэння. Розніца хіба што ў тым, што характар напружанасці мае свае рэгіянальныя рысы. Так, людзі ўжо тут не тыя. Больш агрэсіўныя, нават злыя. Не гатовыя, як раней, зрабіць ласку, падсабіць – напрыклад, ніхто з вадзіцеляў не спыніцца і не падвязе, калі ты яму ўсяго чалавек. Спагадлівасць, добразычлівасць, таварыскасць быццам куды падзеліся. Кожны чалавек замкнуўся ў сваім ціхім куце, адмежаваўся ад іншых, ад суседзяў, знаёмых. Жыве клопатамі, як звесці канцы з канцамі. Індывідуалізм проста ўражвае.

Мае назіранні хоць не прэтэндуюць на глыбіню, але па сутнасці яны праўдзівыя. Тэндэнцыя такая, што на душы ў людзей цяжкі астой, які будзе шукаць выйсця.

Таму і пішу вам, каб гэта не было схавана ў прыпяцкіх балотах. Не ведаю, якія сілы, чый розум і чыё сумленне здольныя сёння адгукнуцца на гэтую нацыянальную бяду, што захліснула і палескі край. Справа ў тым (і гэта галоўнае, самае важнае), што стан людзей у асяродку такой тэрытарыяльнай структуры як Нацыянальны парк, мае найадметнае значэнне, бо псіхалагічны ландшафт абавязкова пачне адбівацца на запаведным, прыродаахоўным.

Хацелася б у бліжэйшых выпусках пачуць слова сталічных вучоных, першнаперш тых, якія часта бываюць у “Прыпяцкім” і , напэўна, па-рознаму ставяцца да перспектыў адной з самых цікавых часцін Беларусі. Я асабіста звязваю гэты рэгіён з развіццём тут этнаграфічнай запаведнасці ў цеснай узаемасувязі з экалагічнай. Свет вялікі, ёсць краіны, якія, не маючы такой захаванай дзікай прыроды як у нас, стварылі дзівосныя куткі і маюць за гонар гэта паказваць, рабіць сабе славу. Думаю, і нам гэта не пашкодзіць.

Зычу газеце і ўсім, хто сёння руплівіцца аб запаведнай справе, усяго найлепшага .

**_Леанід Кучынскі,_**
*наладчык газавай апаратуры.*
Брэст



SUMMARY


***The page of the readers' letters presents three points of view on reservation of natural and cultural heritage of Belarus, and socio-political atmosphere in society.***

# Пакінем запалкі дома!

## Традыцыя вясновых падпальванняў нясе трывожную ноту чалавечай грахоўнасці

Вясна. Дух адталай зямлі запаўняе ўлонне ваколіц, бадзёрыць і вяселіць людскія сэрцы. Якая моцная надзея на радасць! У полі жаўрукові спеў, за ганкам свежая зеляніна, у лузе першая краска. Глядзіш, абудзілася ў ранняй турботе пчала, замітусіліся ля плоту матылькі.

Вясна, кажуць, ёсць абуджэнне нашых душаў. Свет прыроды і чалавек як ніколі адзіныя ў гэты час. Здавалася б, што можа перашкодзіць іх лучнасці?

Кожную вясну бачу і сведчу з болем: дзе толькі-толькі падсохла на сонцы леташняя трава, там займаецца полымя, вычарняючы і выпальваючы зямлю. Быццам хтосьці нябачны шчыруе з палаючым ветахам, ледзь паспяваючы ўсюды, дзе толькі можна. Вынік спусташальны. Збядняецца раслінны покрыў. Глеба губляе гумус. Выгараюць гнёзды птушак, матылёў, мошак. Гараць гаі, падлескі, лясы. Дым атручвае наваколле. Асмаленая зямля траўміруе душы людзей... За кожным такім падпальваннем – людская рука, чырканне запалкай ці шчоўканне запальнічкай. Хто асмеліўся гэта зрабіць, відаць, ведаў, што чыніць благое. Нават калі гэта падлетак. Пускаючы агонь, кожны інтуітыўна, на генным узроўні адчувае трывогу. Але, магчыма, не кожны (тым больш, падлетак) усведамляе, у якога монстра-знішчальніка перакідваецца падчас прагны язычок выбаўленага агню. У якое страшнае і жорсткае войска ператвараецца вогненны "салдацік" з дзіцячай далоні. Падпальшчык часта не бачыць наступстваў і маштабнасці свайго ўчынка. Я бачыў і сведчу пра тое, як на некалькі кіламетраў, сягаючы метровай вышыні, цягнуўся пасак агню побач з аўтатрасай і пераймаць яго беглі старыя нямоглыя жанчыны з бліжэйшых хутароў...

На жаль, традыцыя вясновых запальванняў нясе трывожную ноту, памнажаючы рахункі чалавечай грахоўнасці ў прыродзе. Можа, досыць. Асцеражомся. Яшчэ не дайшлі да апошняй мяжы, і ў душах жыве надзея. Там, дзе ёсць сям'я, там, дзе ёсць школа, там, дзе ёсць грамадства, знойдзецца і *слова перасцярогі*. Мы павінны асцерагчыся, пераадолець спакусу шкоднай прывычкі, асланіць светлы воблік прыроды ад бяздушнасці і гвалту. Калі не пашкадуем дом жаўранка ці курапаткі, не злітуемся перад кволымі сялібамі матылёў і кузурак, мушак і мошак, не пакінем у спакоі ціхія куточкі безабароннай прыроды — хто і калі пашкадуе нас, такіх бязлітасных і жорсткіх?

Давайце задумаемся: ці варта ставіць падножку прыродзе, калі ёй і так цяжка несці непамерны громазд чалавечага гаспадарання? І давайце не давяраць інертнай наіўнасці, што праблему вырашыць які-небудзь чарговы ўказ альбо кіраўніцкая дырэктыва. Дырэктыва такая ёсць – "Пакінем запалкі дома!" *В.Д.*



SUMMARY

*A preventive advertisement "Let's leave matches at home!" - against setting fire to dry grass during spring-time.*

# Афорт з птушкай на рэштках зімы



*Нільс Юхан Руд*
*Нарвегія*

У прадчуванні цяпла і сонца , калі ўжо ледзь-ледзь пачынаеш верыць у надыход новай вясны, гляджу я на вокны свайго пакоя, якія спакваля ператвараюцца ў графічныя аркушы. Дакладней, афорты.

Галіны вячыстага дуба на фоне свінцовага неба нібыта абведзены нечаю цвёрдай рукой.

Я стаю і гляджу, як неўзаметку, нейкім таемна-дзівосным чынам будзённая звыкласць робіцца творам мастацтва.

І тут прылятаюць вароны.

Гэта бывае звычайна ў адлігу, калі з поўдня дзьме цёплы адліжны вецер. Альбо, наадварот, у той дзень, калі вецер з поўначы нясе на крылах сцюдзёную зімнасць.

Чарада варонаў размяшчаецца ў маіх афортах. Рассаджваецца ў кронах дубоў. Некаторыя сядзяць групкамі паасобку, па двое — па трое. Адна з птушак, разгарнуўшы цяжкія крылы, узлятае, нейкі час трымаючыся ў паветры, затым апускаецца на незанятую галіну ў баку ад іншых. Агледзелася, каб запэўніцца, што паблізу няма для яе ніякае небяспекі.

Гэта, няйначай, вельмі старая варона. Абуза для ўсёй чарады. Можа, нават, нейкая рэдкасць, унікум. З яе прысутнасцю мусяць мірыцца астатнія, магчыма, яна — асоба сярод варон. Персона. Дзюба яе, можа падацца, абмаляваная грыфелем, а лапкі надрапаныя «сухой іголкай».

Быццам знітаваныя, так і сядзяць яны ў кроне дуба. Але гэта зусім не які-небудзь іхні сойм, веча. Наўрад ці сустрэча мае палітычны характар. Калі б яно было так, іншыя вароны імкнуліся б выкаркацца і павярнулі б свае дзюбы адна да адной.

Хутчэй, выглядае на тое, што гэта нейкая сходка, нейкая змова. Бач ты, яны сабраліся толькі дзеля таго, каб пасядзець моўчкі. Можна падумаць!

Між іншым, колькі цікавага і загадкава новага магла б распавесці нам тая самотная варона на абледзянелай галіне дуба.

І да чаго ўсё-ткі радасна бачыць варону паблізу свайго жытла, бачыць і разумець, што яна гэтак жа, як і мы, прывязаная да родных мясцінаў і што мы будзем разам адольваць сцюжы, цярпліва чакаючы цёплага вясновага сонца.

Варона – самая разумная птушка ў нашым паўночным краі. Калі на тое, разумнейшая нават за воранаў бога Адзіна*. Яна ведае за іх куды больш. Бо сялібуе побач з людзьмі, а не дзесьці з багамі.

Варона – неразлучная з намі птушка, яна адвеку жыла ў нашых казках ды паданнях, якія, бадай, без яе былі б надта сумныя і неістотныя. А ўсё таму, што ўвесь год, у любую пару і часіну варона трымаецца чалавека.

Вось толькі дзіўна, чаму аж дагэтуль мы не наладзілі добрых стасункаў паміж сабой – мы і вароны. Няма паміж намі, бліжэйшымі суседзямі, належнага даверу. Больш варажнеча ды злыга. І абарочваецца гэта так ці інакш супраць нас, людзей. Адзін толькі прыклад: зараз проста не даць рады ўратавацца ад драздоў, якія спусташаюць ягаднікі ў садах.

Адзіны, хто ўважыў варону за нешта здатнае, быў, мабыць, кухар, які прыдумаў выкшталцоную страву – варона пад пікантным соусам. Накшталт курапаткі...

Я гляджу на варону, на дуб, на рэшткі зімы за маім акном.

Што тут казаць! Без чалавека ёй, мабыць, было б і самотна, і горка. Калі паблізу няма якога-кольвек людскога жытла, лою не нагуляеш. Аднак поўнага даверу да нас варона не мае. Досвед падказвае ёй, што суседа трэба пабойвацца.

Я гляджу на варону на дрэве ў мяне пад акном. Як добра ўпісалася яна ў афорт гэтай лютаўскай раніцы! Асоба, індывід. Прадстаўнік свайго варанячага племені...

І мне надзвычай цікава ведаць: што ж думае яна пра мяне і пра такіх, як я, — маіх супляменнікаў?

*Адзін — *вярхоўнае бажаство ў старажытнаскандынаўскай міфалогіі. На кожным яго плячы сядзела па ворану, гэтыя мудрыя птушкі казалі яму пра ўсё, што дзеелася навокал; іхнія імёны Хюйн і Мюгін азначалі Думка і Памяць.*



*Юля Дранчук, 5 гадоў.*

*Птахі з майго двара*


SUMMARY

**A hero of the novel "Etching with a crow" by the Norwegian writer Niels Ruhd is a very interesting "person", worthy of note taken to by a human being.**




*Фота: Лявон Кісялёў*

## Да чытачоў

**Шаноўныя сябры!**

Многія з Вас не ўпершыню ўзялі ў рукі наша выданне і ўжо знаёмыя з яго характарам, напрамкам, тэматыкай старонак. Час ад часу рэдакцыя праз пошту і тэлефон атрымлівала кароткія рэцэнзіі, у якіх выказвалася агульнае ўражанне ад выпускаў. Чытачы падбадзёрвалі нас, бо й напраўду рабіць газету ў сённяшніх умовах нялёгка. Мы ўдзячныя ўсім, хто чытаў "Белавежскую пушчу", паспеў падпісацца на яе, ды яшчэ знайшоў час замовіць свой добры, зычлівы водгук.

А цяпер мы, хто выпускаў газету, звяртаемся адмыслова да вас, дарагія сябры. Прапануем невялікую анкету, каб хоць збольшага высветліць наш чытацкі актыў, займець звесткі, што дапамогуць лепш, з улікам вашых зацікаўленняў, рыхтаваць выпускі надалей.

Адкажыце, калі ласка, на пытанні:

1. *Чым завабіла Вас газета? З якіх крыніц Вы даведаліся пра наша выданне (гартаючы падпісны каталог, купілі ў шапіку, пачулі па радыё, убачылі ў знаёмых і г.д.)?*
2. *Ваша ўражанне ад выпускаў, якія чыталі (калі можна, больш падрабязна).*
3. *Што не падабаецца ў газеце альбо варта змяніць, палепшыць?*
4. *Якія тэмы Вы хацелі б нам замовіць (падкажыце таксама адрасы ці людзей, якія добра валодаюць матэрыялам і маглі б быць нашымі аўтарамі)?*
5. *Пра сябе: якога Вы ўзросту, хто па прафесіі, чым захапляецеся, дзе жывяце (спадзяёмся, Ваш "аўтапартрэт" выйдзе за рамкі пашпартнага).*
6. *Ваша фота з альбома (пажадана на ўлонні прыроды).*

Вы можаце адказаць не на ўсе, а на любое з пытанняў, якое вас зацікавіла. Чакаем лістоў.

**ЗАГАДЗЯ ЎДЗЯЧНЫЯ ВАМ.**

Выбар

## Эколаг Валдас Адамкус — прэзідэнт суседняй Літвы

Дзяржава, пост прэзідэнта якой заняў эколаг, можа большага чакаць для сябе ў параўнанні з краінамі, дзе да ўлады прыйшлі былыя гаспадарнікі аграрна-камуністычнага ўзору.

Мы, беларусы, мабыць, першыя мусім пазайздросціць суседняй Літве, бо такога скопішча экалагічных праблем, як у нас, цяжка сёння знайсці дзе-небудзь яшчэ. Тым часам пытанні развіцця патрабуюць і адпаведнага светабачання, і дзяржаўнага падыходу, і засваення найноўшых стандартаў.

Эколаг Валдас Адамкус – менавіта так прадстаўлялі сродкі масавай інфармацыі аднаго з нядаўніх прэтэндэнтаў на самы высокі пост Літвы – да траўня 1997 года ўзначальваў пяты рэгіён Агенцтва аховы навакольнага асяроддзя ЗША. Гэта быў рэдкі поспех для эмігранта з Усходняй Еўропы. Пасада рэгіянальнага адміністратара, якую Адамкус займаў 16 апошніх гадоў, лічыцца надзвычай высокім рангам дзяржаўнага служачага. Установа пятага рэгіёна адказвае за ахову асяроддзя ў шасці штатах Сярэдняга Захаду, дзе пражывае каля 45 мільёнаў чалавек і сканцэнтравана шмат буйных прамысловых прадпрыемстваў. Рэгіянальнаму адміністратару дадзена права накладваць мільённыя штрафы на тых, хто забруджвае навакольнае асяроддзе.

Скупаватая інфармацыя пра новага прэзідэнта суседняй краіны ўтойвае, як часта даводзілася Адамкусу скарыстоўваць "штрафное" права, аднак важна іншае: досвед эколага несумненна прыдасца яму на самай высокай прыступцы ягонай "кар`еры".

Хто ведае, пры ўдалым збегу абставін, магчыма, гэтага досведу перападзе і нам, беларусам. Калі ўспомніць, краіны яднае агульная рака Нёман, апошнім часам моцна забруджаная. А Ігналінская АЭС, якая даўно трывожыць экалагістаў, размешчана ці не на самай мяжы. *Крыніца: уласная інфармацыя.*

Сама-Грынпіс

## "Прылеглыя тэрыторыі" Нідэрландаў — пад неаслабным кантролем зялёных дзяўчынак

Пакуль Грынпіс заняты буйнамаштабнымі справамі, дзяўчынкі-падлеткі, якія назвалі сябе зялёнымі, дзейнічаюць на прылеглых тэрыторыях у невялікіх маштабах. Як кажуць самі ўдзельніцы акцый, Грынпіс займаецца буйной дрэннаю, а мы – дробнай.

Першае, з чаго пачалі зялёныя дзяўчынкі, быў наступ на смецце, якое бессаромна раскідвалі студэнты вакол "альма-матэр". Не, дзяўчынкі не пабеглі падбіраць за імі, а сабралі подпісы і націснулі на ўлады, каб тыя тэрмінова распрацавалі строгія правілы. Памагло. Цяпер адзін раз на месяц студэнты цэлымі курсамі выходзяць прыбіраць прылеглую тэрыторыю.

Зялёныя дзяўчынкі таксама арганізавалі збор подпісаў супраць выкарыстання аднаразовага посуду фірмай МакДональдс. Гэты раз яны прапанавалі прыходзіць і мыць посуд самі — гэткі ненавязлівы пратэст. Але ад іхніх паслугаў адмовіліся, маўляў, харчавальны гігант скарыстоўвае толькі аднаразовы посуд і нажы. Прыглядзеўшыся да тавараў мясцовай крамы, дзяўчынкі заўважылі ў лаку для валасоў ядавітыя рэчывы... Так "прылеглыя тэрыторыі" дзень за днём рабіліся ўсё больш кантраляванымі. Матэрыял, у рэшце рэшт, патрабаваў агалоскі, і дзяўчынкі распачалі выпуск уласнай газеты. Засталося як быццам няшмат – знайсці заможнага выдаўца. *Крыніца: замежны друк.*

Мас-медыя

## "Берагіня" выходзіць з берагоў і пашырае кола падпісчыкаў

Газеце зялёных Паволжа "Берагіня" – аднаму з самых першых прафесійных экалагічных выданняў на былым савецкім абшары – нададзены статус газеты Сацыяльна-экалагічнага Саюза (СаЭС, Масква). З другога паўгоддзя 1998 года газета мае стаць падпісною ў межах СНД. Будзе таксама па-ранейшаму ажыццяўляцца бясплатная мэтавая рассылка зялёнага выдання сярод актывістаў, дзе б яны ні жылі, — у Кастраме, Жытоміры альбо ў Гомлі. Для тых, каму цікава і карысна атрымліваць "Берагіню", рэдакцыя газеты звяртаецца з прапановай замовіць свой адрас.

Нагадаем, што газета ладзіцца адзін раз на месяц на 16 старонках і, бадай, цалкам адрасавана людзям, якія жадаюць зберагчы родныя куткі ў жывым харастве і добрым здароўі. Падаём адрасы для кантактаў: 603134, Расійская Федэрацыя, Н.Ноўгарад, вул. Косціна, 2, 145, газета "Берагіня"; 121019, Масква, аб. 211, Сацыяльна-Экалагічны Саюз. *Крыніца: рэдакцыйная пошта газеты "Белавежская пушча".*

Кнігі

## Запрашэнне ў Беражна

Настаўніцтва і вучнёўства Беларусі атрымала вельмі цікавую і карысную кнігу Яўгена Крамко *"Разам з дзядулем"* (Мінск, "Полымя", 1997). Яе склалі апавяданні, казкі і замалёўкі аб роднай прыродзе. Мяккая, лагодная апавядальнасць, маляўнічая дакладнасць дэталі, моўная натуральнасць найбольш характэрныя пяру аўтара.

Кнігу не аднойчы возьмуць у рукі тыя, хто працуе з душой дзіцяці, хто ідзе ў клас навучыць любіць і адчуваць, хто здольны суперажываць з героямі.

Бадай, кожны твор мае тут дакладную геаграфічную "прывязку" – бераг Нёмана, вёска Беражна, што ў Карэліцкім раёне. Гэта малая радзіма аўтара, бераг яго зачаравання, крыніца натхнення. Тут ён жыве, назіраючы прыроду роднага кутка. Замалёўкі падобныя на паштоўкі ўсім тым, хто не змог наведацца ў Беражна, і тым самым атрымаў запрашэнне сюды патрапіць.

Можа, і сапраўды нехта падахвоціцца адправіцца ў падарожжа – у госці да кнігі і яе аўтара. Адна сустрэча з Нёманам чаго вартая! А луг, а лес, а шырокія прасторы, што раскінуліся наўсцяж?! Крыху далей – знакамітае Крынічна, дзе летуе Янка Брыль, а там – мястэчак Мір з сусветна вядомым замкам...

Застаецца дадаць, што кніга *"Разам з дзядулем"* выйшла ў серыі *"Школьная бібліятэка"* і калі не з`явілася, дык мае з`явіцца ў кожнай школьнай бібліятэцы. *Кастусь Бушко.*



** там, дзе Нёман срэбраводны...*
*Фота: Васіль Зянько (г. Стоўбцы)*

Здымкі

## Новы фільм пра Пушчу застаўся без... аўтара сцэнару

Творчае аб'яднанне "Тэлефільм" Нацыянальнай тэлерадыекампаніі закончыла працу над відэафільмам "Вялікі лес". Гэта чарговая спроба наблізіцца да Белавежскай пушчы з яе складаным гістарычным лёсам і цяперашнім даволі праблематыч-




### Хочаш змяніцца і змяніць свет да лепшага - сядай на ровар!

На працягу года я выпрабоўваў адну з сярэдніх мадэляў **мінскага ровара** і магу з задавальненнем пасведчыць, што гэты дарожны конік быў для мяне і надзейны і цягавіты. Упэўнены, калі беларуская нацыя ўразумее перавагі "местачковага таксі" і шчыльным шэрагам памкнецца асядлаць ровар як самы зручны ды экалагічна мэтазгодны транспарт, вось тады **Мінскі велазавод** і скажа сваё рашаючае ўсенароднае слова. Я вельмі жадаю наблізіць гэты час. Таму рэкламую мінскі ровар, а ў сезон кручу педалі кожны божы дзень. Падчас 7-дзённай вандроўкі па Польшчы мы быццам парадніліся. Праехалі блізу 500 кіламетраў — і мой двухколавы сябар бліскуча вытрымаў іспыт, не падвёў. Я быў шчаслівы і канчаткова паверыў у **мінскую веламарку.**

*Валерый Дранчук,*
*рэдактар газеты "Белавежская пушча"*

ным станам. На жаль, спроба скончылася няўдала. Бо ад задумы — праўдзіва паказаць шлях Пушчы на рубяжы тысячагоддзяў — бадай, нічога не засталося. Рэжысёрская праца Людвігаса Гідравічуса вытрымана ў духу таго часу, калі Пушча была ізаляванаю ад грамадства і з яе рабілі прыгожы міф.

"Пазіцыя" рэжысёра і сталася галоўнай перашкодай зрабіць вострапубліцыстычны фільм у абарону Пушчы паводле сцэнарыя, аўтар якога ў рэшце рэшт не пайшоў на кампраміс і катэгарычна адклікаў свой удзел у фільме.

Хутка відэафільм "Вялікі лес" з'явіцца на тэлеэкранах краіны і гледачы ацэняць яго самі. Ужо сёння можна сказаць, што многім ён спадабаецца. *Уласная інфармацыя.*

На ўлонні

## Танец "Мікіта"

Няма лепшых танцаў як на прыволлі, сярод прыроды. Традыцыйны беларускі танец "Мікіта" з такіх і ёсць (хіба не відаць па здымку?).



Узяўшыся за процілеглыя канцы палкі, пад музыку, у такт, вы пагрэфляеце то адну, то другую нагу спрытна перакідваць над палкай, быццам пералазіць цераз яе. Танец даволі ўтомны і патрабуе рухавасці. Астатняе, як кажуць, дадасца. Станчым? *Крыніца: "Этнаграфія Беларусі", 1989*

Заданне майстру

## Птахам на ўцеху, сабе на карысць

Калі вы задумалі зрабіць шпакоўню, скарыстайцеся агульнапрынятымі памерамі: дно 14x14 см, вышыня ад дна да вечка 30-35 см, лятка (лепш круглы) 4,6-5 см. Адлегласць ад вечка да лятка звычайна роўная яго дыяметру.

Лепш за ўсё, калі шпакоўня мае натуральны колер (вялікі працэнт засялення, кажуць, даюць хаткі, пафарбаваныя на зялёны альбо карычневы). Праз 4-5 гадоў шпакоўні ўсярэдзіне беляць крэйдай ці вапнай.



Каб агарадзіць птушак ад няпрошаных гасцей (пераважна кошак) зрабіце на жэрдцы прыстасаванне, як паказана на малюнку. Ёсць і такі спосаб: знізу ствол дрэва абвязваюць калючым галлём або абкручваюць калючым дротам. *Ул. інфармацыя*

## Паштовая скрынка з фантазіяй

Тыповы малюнак, які лёгка прыгадае кожны вандроўнік: каля "заселенай" шашы насупраць сядзібаў, справа і злева, нібы вартавыя — паштовыя бляшаныя скрынкі. Яно і зручна: не трэба тупаць за весніцы, каб пакласці газету ці ліст.

Але ў гэтым шэрагу аднастайных стандартных скрынак часам пракінецца раптам "узлёт фантазіі" гаспадара: скрынка ў выглядзе аленя, лебедзя, бусла... Хай сабе імітацыя, якая ніяк не заменіць нам жывую прыроду. Аднак яскрава засведчыць людскую любоў ды пашану да свету, які трэба берагчы і памнажаць. І гэтага ўжо нямала. Як кажуць, прыклад, варты ўсялякага патурання. *Уласная інфармацыя.*

У свет

## На газету "Белавежская пушча" пажадалі падпісацца ў Парыжы

Чарговы водгук на прыродалюбнае беларускае выданне прыйшоў з французскай сталіцы – бібліятэка інтэрнацыянальнай дакументацыі, што на Універсітэцкай алеі, 6, выказала жаданне знаёміцца з кожным нумарам незалежнай газеты і замовіла падпіску. Супрацоўніца культурнай установы мадам Людміла Маршэзэн лічыць выданне дастаткова даступным, нягледзячы на ягоную беларускамоўнасць і сціслаць summary. Рэдакцыя вырашыла не абцяжарваць бібліятэку лішнімі клопатамі і будзе знаходзіць магчымасць дасылаць неабходныя экземпляры ў Парыж бясплатна. *Уласная інфармацыя.*

Сад

## Апроч божых каровак, ёсць мноства іншых карысных кузурак

Прырода тонка вызначыла: кожны шкоднік мае сама менш аднаго, а то і больш праціўнікаў. Божыя кароўкі, залатавочкі (з доўгімі серабрыста-блакітнымі крыламі), драпежныя мухі-гудзёлкі і мухі-серабранкі — ворагі тлі.

Таму, калі хто наважыў брацца за яды, каб ваяваць супраць шкоднікаў, павінен памятаць: шмат якія прэпараты не маюць на ўвазе розніцу паміж божай кароўкай і тлёю. Ці не лепш пасадзіць крыху больш раслінаў, якія кампенсуюць вашы страты. Такім чынам мы хутчэй падтрымаем раўнавагу ў прыродзе, чым адстоім яе з "хіміяй" у руках. *Крыніца: часопіс "Мой цудоўны сад",№1, 1998.*



Sos!

## Аперацыя "Таполя" абяцае паменшыць кіслароду ў беларускай сталіцы

У рэдакцыю на працягу студзеня і лютага тэлефанавалі жыхары горада з адным пытаннем: ці ведаем мы пра вынішчэнне таполяў і іншых зялёных насаджэнняў? Людзі несумненна мелі рацыю, калі абураліся варварскімі адносінамі "зялёнабудаўцаў" да грамадскага скарбу роднага горада.

Рэч у тым, што ў двары жылых дамоў "брыгады зачысткі" з'яўляліся без аніякіх папярэдніх растлумачэнняў і валілі страдрэвіны ледзь не запар. Зразумела, пад бензапілы траплялі не толькі таполі, але клёны, асіны ды іншыя дрэвы, з якіх не адно дало б фору ў даўгалецці тым, хто з лёгкасцю вырашаў іх лёс. Нераўнадушныя жыхары звярталі ўвагу на здаровыя асяродкі камялёў і справядліва шукалі рады, пытаючыся, хто даў дазвол чыніць такі бязлітасны прысуд дрэвам і ў чыю кішэню пацяклі грошы за спушчаныя кубаметры драўніны.

Пытанняў увогуле шмат. Ці будуць адказы? Інфармацыю, якую рэдакцыя атрымала па зваротнай сувязі ад чытачоў, перададзена ў гарадскі камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Да тэмы "зачысткі" газета мае намер вярнуцца ў наступным нумары. *Уласная інфармацыя.*

Анекдот

## Матрос і папугай

На аукцыёне матрос купляе папугая.

*"Пятнаццаць даляраў!"* – дае матрос.

*"Дваццаць!"* – набаўляе нехта.

*"Дваццаць пяць!"*

*"Сорак!"*

*"Сорак пяць"*, — гаворыць матрос, і птушка яго.

*"Гэты папугай мне дорага даўся. Ці можа ён гаварыць?"* – пытаецца новы ўладальнік папугая ў аукцыянера.

*"Гм... Ці можа ён гаварыць?! —* абураецца той. – *Хіба вы не чулі, як ён набаўляў кошт?"*

## Слінкі цякуць...

*"Слінкі цякуць, дальбог, як пагляджу на ваш нацюрморт. Яешня быццам жывая!"*

*"Што вы! Гэта захад сонца!"*

# НАШЫЯ СЛОВЫ!

OUR WORDS!




*Уладзімір Басальыга. Серыя* ***"Мова наша родная"****. Літара Г. Папера, каляровая літаграфія, 1991.*

***Шаноўныя чытачы!***

*Наступны ініцыял, як вы здагадаліся, будзе літара* ***Д.*** *Рэдакцыя прапануе і вам разам з мастаком Ул.Басальыгам папоўніць скарбонку слоў і вобразаў. Нам будзе прыемна атрымаць ад вас цікавыя згадкі пра словы, якія пачынаюцца на літару* ***Д.*** *А пакуль што мы прыадчынім маленькую заслону і назавём словы, якія ў свой сюжэт закампанаваў мастак, —* ***далягляд, дзівасіл, дзік, дзяцел, дождж, дойлідства, дом, дрэва.*** *Магчыма, у гэтым сузор'і вы знойдзеце "сваю тэму", магчыма, прыпомніце штосьці з асабістага слоўніка, магчыма пашукаеце выслоўе, прымаўку ці прыказку і г.д. Галоўнае, каб слова ці выраз былі беларускімі, адметнымі, прыгожымі.*

## Алень з залатым крыжам

*Гродзенскаму гербу з выявай Аленя Святога Губерта споўнілася 500 гадоў. Паводле тых часоў, горад атрымоўваў яго разам з пячаткай і сцягам – сімваламі нададзенага гораду Магдэбургскага права. А сам Святы Губерт, як сведчыць гісторыя і паданне, быў ці не першым эколагам на Старым кантыненце.*

***Аляксандр Мілінкевіч, краязнаўца***

Святы Губерт жыў пры канцы VII— пачатку VIII стагоддзяў, калі хрысціянская царква была яшчэ адзінай, і з'яўляўся біскупам горада Льежа, што ў Бельгіі. Губерта ўважалі за чалавека добразычлівага, папулярнага і любімага сярод вернікаў. Што праўда, меў ён адну слабасць – быў заўзятым паляўнічым... Аднойчы на паляванні трапіў на цудоўнага ў сваёй красе аленя. Але ў той момант, калі Губерт прыцэліўся са свайго арбалета, яго асляпіла незвычайнае ззянне: паміж рог жывёліны ў промнях сонца з'явіўся залаты крыж. Святы не стрэліў...

Пад уражаннем Боскага паслання біскуп адмаўляецца ад палявання і аддае ўсе свае сілы і значныя сродкі на абарону жывёлін. Ён увайшоў у еўрапейскую гісторыю як патрон паляўнічых і прыроды і, па сутнасці, быў першым эколагам на Старым кантыненце, хто нам вядомы.

Сёння можа падацца дзіўным, што вялікі князь Аляксандр і гарадзенцы ў тым далёкім ад нас пятнаццатым стагоддзі, абіраючы Аленя Св. Губерта сімвалам горада, клапаціліся пра захаванне наваколля. Не было ж ні Чарнобыльскіх зонаў, ні нітратаў у харчах, ні забруджанага паветра... А рэчка Гараднічанка, што працякае праз Гродна і дзе апошняя плотка вылаўлена трыццаць гадоў таму, была на той час адной з самых рыбных на Беларусі: тут нераставалі ласосі. Таму трэба аддаць належнае нашым прашчурам: яны добра разумелі, што галоўнае багацце Гарадзеншчыны – прырода. Нават крыжакі, ідучы на горад, рэдка пісалі ў хроніках: "Ідзем на Гартэну (Гародню)", часцей за ўсё — "Ідзём у Пушчу". Менавіта суцэльнай пушчай выдавалася тагачасным людзям Прынямонне: бясконцыя адвечныя лясы, глыбокія азёры, павуцінне рэчак, непраходныя балоты. Тут і адбываліся вядомыя далёка за межамі Вялікага княства Літоўскага шумныя і багатыя паляванні, а ў Гародні ды іншых мястэчках будаваліся палацы і замкі, што рабіла горад багацейшым, давала падставы мець яго за летнюю рэзідэнцыю каралям, князям і магнатам.



*Выява гарадской пячаткі 1540г.*

*Фота: з калекцыі аўтара*

Сведкамі тае пары дайшлі да нас і назвы навакольных вёсак: Зубрава, Зубраўка, Воўчыя ямы, Арлова гара, Засада, Сабакінцы... Дарэчы, археалагічныя раскопкі ў Гродне таксама сведчаць, што косткі дзікіх жывёлаў XIV-XV стст. складаюць большую частку, чаго няма ў ніводным іншым горадзе Беларусі, Літвы і Польшчы. Таму лёгка зразумець, чаму гарадзенцы, абіраючы ў якасці герба Аленя Св. Губерта, сцвярджалі святасць прыроды. І гэтая традыцыя мае пачатак дахрысціянскага часу, бо ў хрысціянаў вобраз Хрыста ў выглядзе Аленя з'явіўся ад азычніцкага міфалагічнага культу Сонца: алень – Сонца. Крыж у язычнікаў увасабляў Сонца, і таму невыпадковае ягонае з'яўленне ў рагах аленя.

Гістарычны сімвал Гродна – герб з Аленем Св. Губерта – упрыгожваў сцяг горада і пячатку на працягу трох стагоддзяў, праіснаваўшы да моманту далучэння Беларусі да Расійскай імперыі пасля падзелу Рэчы Паспалітай у канцы XVIII стагоддзя. Расія не ведала ў сваім гістарычным дарэвалюцыйным развіцці прынцыпаў еўрапейскай гарадской дэмакратыі, якія ўвасабляла ў сабе Магдэбургскае права; таму не дзіўна, што гэтае права на самакіраванне гарадоў было адменена ўказам Кацярыны II. Той жа незайздросны лёс напаткаў і старажытныя гарадскія гербы, што нагадвалі пра самастойнасць і свабодалюбнасць – іх забаранілі. У XX стагоддзі Алень Св. Губерта ў якасці гістарычнага сімвала Гародні двойчы адраджаўся: на пачатку 20-х і ў 1990 годзе. Сёння, на жаль, мы амаль страцілі разуменне старадаўняй сімволікі...

Кожны элемент герба мае свой сэнс. Алень – прырода, жыццё. Крыж – святасць, а ягоны залаты колер – багацце, сіла. Блакітны колер геральдычнага шчыта выяўляе вечнасць і прыгажосць. Нашыя продкі змаглі нават зашыфраваць у гербе назву горада: загародка, над якой ляціць алень, па-старабеларуску значыла "гароднія" — менавіта так у сярэднявеччы называлі сённяшняе Гродна. Адлюстраваная тут і радасць вызвалення: алень, пераскокваючы праз "гародню", становіцца вольны. Гэта сімвалізавала свабоду і самастойнасць горада, які атрымліваў права на прывілеі.

*Гродна*

***O**nce about 70 towns of Belarus enjoyed the Magdeburg Right and had their own seals, emblems and flags. The history of 500-years old symbol of the city of Grodno in interpretation of the author exposes a lot of interesting information on natural resources of this region and traditions of their careful use.*


Беларускае Падарожжа

Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання чацвёрты. 1998 №1 /10/
* пасведчанне аб рэгістрацыі №125 ад 27.06.96
* наклад 3000 асобнікаў, кошт дамоўны
* пры передруку спасылка на газету абавязковая

Афармленне, макет: *Валерый Дранчук*
Карэктура, вёрстка: *Уладзя Ляская*
Summary: *Алена Данілава*

Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл. 236-50-76, факс 220-23-53
Аўтары маюць права вольна выказваць свае меркаванні і нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.
Газета надрукавана ў друкарні "Міэджык" (Мінск, вул В.Харужай, 13)
Падпісана ў друк 25.02.98 Замова № 223